E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 24 (29) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА СНЕЖАНЬ 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by




## Прыемнасці

### Беларуская вёска – Маскве

Прадпрыемствы Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі за 10 месяцаў 2003 года паставілі ў Маскву харчовых прадуктаў болей чым на 100 мільёнаў даляраў. У расейскую сталіцу пастаўлена амаль 11 тысяч тон гавядзіны (на 28% болей задання). Цвёрдых сыроў адпраўлена 9,5 тысяч тон (на 29,5% болей запланаванага). Малочных кансерваў адгрузілі ў Маскву амаль 18 мільёнаў штук умоўных банак, што на 25% болей за план. Мясных кансерваў паставілі 8,3 мільёна банак замест 7 мільёнаў. Таксама у Маскву было адпраўлена амаль 8 тысяч тон мяса птушкі і 292 мільёны яек. У наступным годзе аб'ёмы паставак беларускага харчавання ўзрастуць да 105 мільёнаў даляраў, у 2005 годзе – да 109 мільёнаў даляраў, у 2006 годзе харчовых прадуктаў будзе пастаўлена на 116 мільёнаў даляраў. Пра гэта паведаміла беларускае пасольства ў Маскве.

### Пяюць члены прафсаюзаў

Як паведаміла Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская, цяпер яна мае гімн і марш. Словы і музыку гімна ФПБ напісала Ірына Войцік, выкладчык музычнай школы ў Брэсце, аўтарамі прафсаюзнага марша сталі кампазітар Эдуард Зарыцкі і паэт Павел Саковіч.

Нядоўга ўжо чакаць таго часу, калі на дэманстрацыях калоны працоўных будуць крочыць пад свой марш, а на ўрачыстасцях з гонарам спяваць свой гімн. Задавальваючы інтарэс сяброў прафсаюзаў, друкуем тэкст гімна.

## Гімн
### Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі

З'ядналіся мы ў сям'ю прафсаюзаў
І будзем змагацца за лёс беларусаў,
За светлую веру ў заўтрашні дзень,
За радасць, за шчасце і мір для людзей.

Прафсаюзы - дзень за днём цясней рады!
Мы за шчасце Беларусі назаўжды!
Прафсаюзы - добра ведае народ:
Толькі ў працы багацець нам з года ў год.

Няхай ты вучоны, настаўнік, рабочы
У цесным саюзе быць кожны з нас хоча,
Каб разам у працы дастатак здабыць,
У дружбе і згодзе заўсёды нам жыць.

Прафсаюзы - дзень за днём цясней рады!
Мы за шчасце Беларусі назаўжды!
Прафсаюзы - добра ведае народ:
Толькі ў працы багацець нам з года ў год.

Радзіме аддана служыць мы клянёмся!
І з нашага курсу навек не саб'ёмся.
З народам сваім у страі прафсаюз
Ідзе мірным шляхам, каб жыў беларус.

Прафсаюзы - дзень за днём цясней рады!
Мы за шчасце Беларусі назаўжды!
Прафсаюзы - добра ведае народ:
Толькі ў працы багацець нам з года ў год.

## Плошча Незалежнасці мяняе профіль




Напярэдадні Калядаў галоўную плошчу краіны агарнула маштабная будоўля – дзесяткі экскаватараў і бульдозераў рыюць катлаван, калоны самасвалаў вывозяць грунт – праект падземнага гандлёвага горада ўвасабляецца ў жыццё. Праз нейкі час гэты куток Мінска, магчыма, будзе гэткай жа прадстаўнічай каштоўнасцю, якую зрабілі ў Маскве пад Манежнай плошчай. На жаль, плоскі рэльеф не дазволіць аздобіць плошчу Незалежнасці ансамблем фантанаў, як у Маскве каля крамлёўскіх муроў.

## Пагроза нацыі

Як паведаміў БелаПАН галоўны нарколаг Міністэрства аховы здароўя Беларусі Уладзімір Максімчук, спажыванне спіртовых напояў на душу насельніцтва на год стала пераўзыходзіць узровень 1984 года, калі назіраўся максімальна высокі ўзровень – 8,2 літра на чалавека. На сённяшні дзень гэты паказчык складае болей за 9 літраў абсалютнага алкаголю на чалавека на год (па рэкамендацыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ён не павінен пераўзыходзіць 2 літры чыстага спірту на чалавека на год)

Па словах галоўнага нарколага краіны, п'янства і алкагалізм па маштабах свайго распаўсюджання, вялічыні эканамічных, экалагічных, дэмаграфічных і маральных стратаў уяўляе сур'ёзную парозу стабільнасці і развіццю грамадства, здароўю і дабрабыту нацыі.

У 2000 годзе ў Беларусі была прынята дзяржаўная праграма нацыянальных дзеянняў па папярэджанні п'янства і алкагалізму. За час яе рэалізацыі ў краіне на 27 працэнтаў зменшыўся аб'ём вытворчасці гарэлкавай прадукцыі, у час як вытворчасць вінаградных напояў павялічылася на 70 працэнтаў. Па словах спецыяліста, спіртовыя напоі сталі спажываць жанчыны і падлеткі. Асабліва трывожнае становішча са спажываннем спіртовых напояў склалася ў сельскай мясцовасці, дзе практычна адсутнічае кантроль за вытворчасцю моцных спіртовых напояў у хатніх умовах.

Штогод, паведаў Максімчук, у прыёмныя пакоі шпіталяў краіны паступае каля 60 тысяч чалавек у стане алкагольнага ап'янення з рознымі захворваннямі, у бягучым годзе гэты паказчык склаў 104 тысячы чалавек. Агульны лік хворых на алкагалізм і наркаманію ў параўнанні з мінулым годам павялічыўся на 8,2 працэнты і дасягнуў 209 тысяч чалавек.

## Палескія ваўкі выходзяць з «зоны»

Зграі ваўкоў усё часцей сталі пакідаць межы Палескага радыяцыйнага запаведніка. Скарачаць пагалоўе драпежніка не дазваляюць бюракратычныя бар'еры. Між тым рост пагалоўя ваўкоў не паддаецца падлікам.

Жыхары вёскі Рудня Жураўлёва (Гомельская вобласць) увечары баяцца выходзіць з хатаў. Ад укусаў шалёнага ваўка тут пацярпелі 4 чалавекі. Адной жанчыне давялося зрабіць сем пластычных аперацыяў на твары. Ад ваўкоў церпіць і калгаснае быдла. Гэтымі днямі ў вёсцы Слабажанка драпежнікі загрызлі 19 цялят. Кожны раз, калі на калгасны статак нападаюць ваўкі, сяляне за дапамогай звяртаюцца да мясцовага паляўнічага. На ліку Яўгена Валеватага 50 забітых ваўкоў. Ён гаворыць, што шэры драпежнік вынішчыў амаль усіх капытных у мясцовых лясах. У кожнай вёсцы, якія мяжуюць з запаведнікам, ёсць свой ваўчатнік – паляўнічы на ваўкоў. Аднак дзейнічаюць ваўчатнікі толькі па-за тэрыторыяй запаведніка. А ў ім не толькі паляваць, але і знаходзіцца забаронена з-за высокага радыяцыйнага фону. Таму адстрэльваць драпежнікаў можна толькі з верталёта. Але для гэтага ў запаведніка няма сродкаў. Такое паляванне даступнае толькі замежнікам.

Намеснік начальніка аховы Палескага радыяцыйнага запаведніка Аляксандр Леўш адзначыў, што маецца шмат жадаючых паўдзельнічаць у адстрэлах менавіта ваўкоў. На дадзены момант толькі з Францыі сюды з такой мэтай гатовы прыехаць каля 40 групаў. Але запрашаць турыстаў-паляўнічых адміністрацыя запаведніка не рызыкуе. Бо замежнікі могуць забіць замест ваўка касулю ці кабана, а на такое паляванне трэба купляць адмысловую ліцэнз ію. Тым часам паўтысячы галодных ваўкоў запаведніка працягваюць паляваць на кабаноў, касуляў, цялятак і жыхароў блізкіх вёсак.

*agronews.ru*

## «Катафоты» кожнаму грамадзяніну Беларусі

Да нядаўняга часу свяціцца ў цемры ў святле аўтамабільных фараў мелі права выключна супрацоўнікі Дзяржаўнай аўтаінспекцыі. Як толькі кіроўца ў начны час бачыў на гарызонце нейкае «блістанне», ён у той жа момант скідваў газ і ў зону дзеяння радару ўязжаў ужо на дапушчальнай хуткасці. З гэтым непарадкам ДАІ трэба было неяк змагацца.

І вось мінулым тыднем у інтэрв'ю «Інтэрфаксу» першы намеснік начальніка ўпраўлення ДАІ МУС Аляксандр Кузьменка заявіў, што ўсім грамадзянам было б добра насіць вопратку і абутак з элементамі, якія адбіваюць святло. Па словах А.Кузьменкі, ДАІ ўжо прапанавала Міністэрству прамысловасці пачаць выпуск такой вопраткі і абутку: выкарыстанне яе дазволіць пазбегнуць мноства ДПЗ. Незразумела, праўда, на якія слаі насельніцтва будзе арыентавана адзенне з «катафотамі». Можна толькі здагадвацца, што яна напэўна выкліча ажыятаж сярод наведвальнікаў модных танцавальных клубаў, бо будзе свяціцца ў нянавым святле. Абутак з «катафотамі» паступова заменіць у асяроддзі рэйвераў аранжавыя і жоўтыя боты на тоўстых падошвах. А вось у шырокія масы адзенне з элементамі, якія адлюстроўваюць святло, прыдзецца ўжыўляць доўгі час. Але вынік з таго будзе добры - распазнаць менавіта міліцыянера ў бліскучым сілуэце стане немагчыма, а таму кіроўцы адразу пачнуць трымаць хуткасны рэжым.

## БЕЛАРУСКАЯ ЁЛКА!




На вялікі жаль, арганізатары дзіцячых ёлак чамусьці не падумалі пра тое, што ў нашай краіне акрамя рускай ёсьць дзяржаўная беларуская мова. Практычна ўсе прапанаваныя для наведваньня ёлкі на рускай мове. У сувязі з гэтым суполка Таварыства Беларускай Мовы «Беларуская Музычная Альтэрнатыва» вырашыла зладзіць сьвята для беларускамоўных дзетак. Такім чынам:

**2 студзеня ў Палацы культуры ветэранаў (Я.Купалы, 21)**
**БЕЛАРУСКАЯ ЁЛКА**
**«Навагодні акіян радасьці».**
**У праграме цікавы дзіцячы спектакль, дыскатэка з гульнямі, конкурсамі і падарункамі каля ёлкі са Святым Мікалаем!**
**Пачатак 12:00.**

Кошт квітка 2.500–3.000. Звяртаемся для зацікаўленых аказаць магчымую падтрымку: прыйсьці са сваімі дзеткамі альбо паведаміць сваім знаёмым.
Калектыўныя заяўкі атрымаюць дадатковыя скідкі!
А чытачам «Новага Часу» невялікі прэзэнт ад арганізатараў!
Кантактныя тэлефоны: 8–0296–490888, 8–0297–662425.

**24 снежня а 13-й гадзіне адбудзецца ўрачыстае асвячэнне помніка вялікаму сыну Наваградчыны паэту Адаму Міцкевічу, які ўзведзены ў скверы паміж вул. Валадарскага і Няміга, а перад тым у 12 гадзін у касцёле святых Сымона і Алены адбудзецца ўрачыстая імша з гэтай нагоды**





## 30 снежня святочны парад



На Кастрычніцкай плошчы ў Мінску паставілі ёлку вышынёй 32 метры. Яе зманціравалі з больш чым сотні ялінаў самага рознага памеру. Афіцыйна яе запаляць 30 снежня падчас традыцыйнага шэсця па цэнтры Мінска Дзедаў Марозаў і Снягурак. Узначаляць гэты навагодні парад дырэктар Тэатра юнага гледча Юры Вута і актрыса купалаўскага тэатра, выканаўца галоўнай ролі ў гістарычнай меладраме «Анастасія Слуцкая» Святлана Зелянкоўская.

Галоўныя ёлкі ў абласных цэнтрах нашай краіны трохі меней за сталічную, як, зрэшты, і належыць па ранжыру. Прыкладам, у Віцебску яна сягае 24 метры, а ў Гомелі – 27. Але мінская зборная яліна будзе не самай галоўнай і не самай высокай на гэты Новы год. У Белавежскай пушчы ў рэзідэнцыі галоўнага Дзеда Мароза Беларусі ўпрыгожылі 40-метровую лясную прыгажуню прама ў лесе.

Караль ВАЙТЫЛА

# Паэзія

### Калі думаю пра Айчыну
*(фрагменты)*

Калі думаю пра Айчыну – тады прарастаю,
пускаю карэнне,
пра тое сэрца гаворыць, як нябачная мяжа,
якая з мяне перабягае да іншых,
каб усіх агарнуць мінулым, даўжэйшым
за кожнага з нас:
з яе я выходжу...калі думаю пра Айчыну –
каб замкнуць яе ў сабе, як скарб.
І ўсё пытаю: як мне яго памножыць, як
пашырыць тую прастору, у якой яму цесна...

### Калі вакол гавораць на мовах...
1. Калі вакол гавораць на мовах, як раслі
пакаленні і неслі ў скарбонку свае зямлі
старыя рэчы і новыя, -
Зямля стала калыскай агнёў, запаленых
глыбока ў людзях, так і плылі тыя самыя
рэкі, так і абвіваў зямлю моцны ручай
і набіраўся гісторыі.
Рэкі беглі на дол, а ручай мовы імкнуўся
ў бок вяршыняў.
Вяршыняй быў кожны, хто вырас з гэтай
зямлі, і кожны ёсць вяршыняй -
адначасна вяршыня ёсць над кожным
і над усімі, і ўзносіцца стромай, і глыбей
западае ў свядомасць.

2. Калі вакол гавораць на мовах, звініць сярод
іх адна: наша ўласная. Заглыбляецца
ў думы пакаленняў, плыве вакол нашай
зямлі, ёсць срэхай дому,
у якім мы разам -
а па-за домам гучыць рэдка –
(у групах людзей, якія размаўляюць навокал,
як выспы, вакол якіх віруе акіян мовы
штодзённай, і хвалі сваёй не знаходзіць) –
не пашырыліся рэсурсы маёй зямлі;
калі нават мова спадае, як вада ў рэчцы,
то дзеля таго, каб знікаць паволі
ў старыцах перасохлых –
мовы маіх бацькоў не прынялі іншыя народы,
бо казалі: «зацяжкая» альбо – «лішняя», –
на вялікім форуме нацый гаворым
не на сваёй мове.
Уласная мова замыкае нас у сабе:
закрывае – а не адкрывае.

3. Так, знітаваныя адной мовай, існуем
у глыбіні каранёў сваіх і чакаем,
калі ж плод нальецца, даспее.
Атуленыя штодня прыгажосцю мовы свае,
не адчуваем гаркоты, хоць на рынках
замежных не купляюць думак у нас,
бо надта дорага словы каштуюць.
Ці ж мы не жывім у сабе прагі
яшчэ глыбейшага абмену?
Люд, які жыве ў сэрцы ўласнай мовы,
застаецца ў пакаленнях таямніцаю думкі,
да канца не разгаданай.

## Ян Павел II
З твору «Рымскі трыпціх»

### 2. Крыніца

Затока лесу спускаецца
ў рытме горных патокаў...
Калі хочаш знайсці крыніцу,
мусіш ісці пад гару супраць плыні.
Прадзірайся, шукай, не саступай,
ведаеш, яна павінна тут недзе быць –
Дзе ты, крыніца?.. Дзе ты, крыніца?!

Ціша...
Струмень, лясны струмень,
адкрый мне таямніцу
свайго пачатку!

(Ціша – чаму ты маўчыш?
Як жа старанна схавала ты таямніцу
свайго пачатку.)

Дазволь арасіць перасохлыя вусны
крынічнай вадою
і адчуць свежасць,
жывую свежасць.

### Медытацыі над «Кнігай Быцця» на парозе Сікстынскай капліцы

### 2. Вобраз і падабенства

«Стварыў Бог чалавека на свае вобраз
і падабенства,
мужчынам і жанчынаю стварыў іх –
і бачыў Бог, што было гэта вельмі добра,
абое ж былі голыя і не адчувалі сораму».
Ці так магло быць?
Сучаснікаў пра гэта не пытай, спытай
Мікеланджэла,
(а можа і сучаснікаў?!)
Спытай у Сікстыны.
Як шмат сказана на гэтых сценах!

Пачатак нябачны. Усё тут на гэта ўказвае.
У гэтым буйстве, вызваленым геніем чалавека.
І крэс невідавочны таксама.
Хоць адкрываецца твайму позірку, вандроўнік,
візія апошняга Суда.
Як зрабіць відавочным, як пранікнуць
за межы дабра і зла?

Пачатак і крэс незаўважна пранікаюць да нас
з гэтых сценаў!

*Ён*

«У ім мы жывем, рухаемся і існуем».
Ці Ён – гэта толькі прастора тых, хто жыве?
Ён – Створца.
Абдымае ўсё, ствараючы і трымаючы
ў існаванні –
тым дае падабенства.
Калі апостал Павел прамаўляе на Арэапагу,
укладаецца ў яго словы ўся традыцыя Запавету.
Кожны дзень завяршаўся там словамі:
«І бачыў Бог, што было гэта добра».

Бачыў, знаходзячы след свае Істоты –
Знаходзіў сябе, як у люстры, ва ўсім, што бачыў.
Спрадвечнае Слова ёсць як быццам парогам,
за якім жывем, рухаемся і існуем.

*Чалавек (Я)*

Чаму менавіта пра той адзіны дзень сказана:
«Бачыў Бог, што ўсё, што зрабіў, было добра»?
Ці гэтаму не пярэчыць гісторыя?
Хоць бы век наш дваццаты! І не толькі
дваццаты!
Аднак аніводзін век не можа засланіць праўды
пра вобраз і падабенства.

*Мікеланджэла*

Калісьці з гэтаю праўдаю зачыніўся ў Ватыкане,
каб выйсці адтуль, пакідаючы
Сікстынскую капліцу.
Бо «Стварыў Бог чалавека на свой вобраз,
на вобраз Божы яго стварыў,
мужчынам і жанчынаю стварыў іх.
Абое былі голыя,
не саромеліся адно аднаго»!
І бачыў Створца, што было вельмі добра.
Бо ці не Ён бачыць усё ва ўсёй праўдзе?
Omnia nuda aperta ante oculis Eius –

**Яны**

Яны таксама на парозе гісторыі
бачаць сябе ва ўсёй праўдзе:
былі абое голыя...
Яны таксама сталі ўдзельнікамі гэтай візіі,
якую перанёс на іх Творца.
Ці не хочуць застацца такімі?
Ці не хочуць вярнуць гэту візію?
Ці не хочуць быць праўдзівымі і празрыстымі
адно для аднаго,
такімі, як створаныя для Яго?
Калі так, то спяваюць гімн удзячнасці,
нейкі Magnifirat людской глыбіні,
і тады так глыбока адчуваюць,
што менавіта «ў Ім жывем, рухаемся і існуем» –
Менавіта ў Ім!
Гэта Ён дазваляе ім удзельнічаць у гэтым
харастве, якім іх напоўніў!
Гэта Ён адкрывае ім вочы.
Калісьці Мікеланджэла, выходзячы з Ватыкана,
пакінуў паліхромны роспіс, ключ якога –
«вобраз і падабенства».
У гэтым ключы нябачнае выяўляецца ў бачным.
Прасакрамант.






**Выдавецтва «Про Хрысто» выпусціла кнігу паэтычных твораў Караля Вайтылы. Пераклады з польскай мовы зрабілі Данута Бічэль і Алесь Чобат. Вершы глыбокай веры, святла і таямніцы ўкладаў Паэт на пачатку духоўнай дарогі, – напісала ў прадмове Данута Бічэль. – Паэту наканавана было стаць Галавою Каталіцкага Касцёла, Вікарыем Езуса Хрыста на зямлі...**

**У 2002 годзе Папа нечакана для ўсіх, пасля доўгага перапынку, напісаў яшчэ адзін твор – «Рымскі трыпціх», які ўпершыню падпісаў сваім пантыфікальным імем: Ян Павел II. Гэта своеасаблівы паэтычны тастамант, дзе пульсуе глыбокая думка тэолага і жывая, неўтаймоўная душа творцы, улюбёнага ў хараство свету і сапраўднае мастацтва.**









# Дагнаць і абагнаць

### Беларусы хочуць пацяснiць Расею на рынку зброі



У наступным годзе у Расіі можа з'явіцца новы моцны канкурэнт на міжнародным рынку гандлі зброяй. На гэтую ролю прэтэндуе Беларусь.

Па розных ацэнках, у бягучым годзе даход ад продажу беларускай зброі наблізіўся да 2 мільярдаў даляраў. «Рособоронэкспорт», па інфармацыі першага намесніка гендырэктара кампаніі С.Чамезава, у гэтым годзе дасягне рэкорднай адзнакі па аб'ёмах экспарта зхбраенняў – каля 5 мільярдаў даляраў.

Аднак у бліжэйшай будучыні разрыў можа скараціцца да мінімума. Па меншай меры, пра гэта сведчыць тое, што прэзідэнт Лукашэнка загадаў ураду пачаць стварэнне новага дзяржаўнага ведамства па развіцці ВПК.

Па сутнасці, гаворка ідзе аб тым, што ВПК стане стрыжнем беларускай эканомікі. Неабходнасць такога кроку Лукашэнка абумовіў тым, што «попыт на прадукцыю нашых прадпрыемстваў ВПК вялікі, значны не толькі ўнутры краіны, але і на знешніх рынках».

Канфідэнцыйныя крыніцы паведамілі «НГ», што беларускі ўрад ужо займаецца стварэннем новай дзяржаўнай структуры. Гэтакае тэрміновае рашэнне эксперты тлумачаць нечакана ўзніклымі перспектывамі павелічэння паставак беларускай зброі за мяжу і звязваюць гэта з нядаўнім візітам Лукашэнкі ў Сірыю.

Яшчэ ў канцы лістапада МЗС краіны падрыхтаваў нацыянальную справаздачу аб палітыцы кантролю за экспартам узбраенняў і ваеннай тэхнікі за 2002–2003 гады. І тады ж вуснамі начальніка экспартнага кантролю ўпраўлення нацыянальнай бяспекі МЗС Беларусі В.Паўлава было аб'яўлена, што асноўнымі атрымальнікамі беларускай зброі ў гэтыя гады былі такія краіны, як Іран, Кот-д'Івуар, Судан і Алжыр. А асноўнымі аб'ектамі здзелак былі танкі, баявыя машыны пяхоты і артылерыйскія сістэмы вялікага калібру. Пры гэтым Паўлаў падкрэсліваў, што інфармацыя, якая ўтрымліваецца ў справаздачы, абвяргае паведамленні СМІ аб пастаўках Беларуссю ўзбраенняў «такім краінам, як Ірак», якія нібыта мелі месца.

Наконт апошняй заўвагі можна сказаць толькі тое, што за перыяд акупацыі Ірака сіламі кааліцыі ў гэтай краіне сапраўды не знойдзена беларускай зброі. Інакш на Захадзе, дзе Лукашэнку лічаць «апошнім дыктатарам Еўропы, ужо трубілі б аб гэтым усе. Як тое было ў мінулым годзе, калі камісія па абароне Кангрэса ЗША назвала Мінск буйнейшым пастаўшчыком зброі ў краіны-ізгоі. Пры гэтым спасылкі рабіліся на крыніцы ЦРУ, якое нібыта здабыло дадзеныя аб тым, што Лукашэнка апроч Ірака пры пасярэдніцтва свайго КГБ тайна прадае зброю і для арабскіх тэрарыстычных арганізацыяў. Ізраільская разведка таксама абвінавачвала тады «рэжым Лукашэнкі» ў перадачы Іраку і Лівіі кампанентаў для вытворчасці ядзернай зброі. Але ніякіх доказаў прадастаўлена не было.

У апошні час вяліся размовы аб тым, што Лукашэнка пачаў пастаўляць буйныя партыі зброі свайму аўтарытарнаму «сабрату» Сапармурату Ніязаву. Аднак крыніцы «НГ» у беларускай абаронцы і ваенным ведамстве абвергл і гэтыя чуткі, паведаўшы, што ў Туркменіі засталося даволі шмат савецкай тэхнікі. Што датычыць новых тэхналогіяў, то «салдатам і афіцэрам Туркменбашы, прызваным у армію з аулаў, дай Божа ці там Алах прафесійна засвоіць тое, што яны маюць». Праўда, адна з крыніцаў не выключыла, што «Лукашэнка можа скарыстаць Туркменію як транзітную пляцоўку для продажу сваёй ваеннай прадукцыі».

Новая ідэя Лукашэнкі ў сферы ВПК палягае ў тым, каб «без усялякіх кампрамісаў выдзеліць з эканомікі краіны» адпаведныя вытворчасці і аб'яднаць іх пад адзіным началам. Такіх прадпрыемстваў у Беларусі на сённяшні дзень, па звестках «НГ», каля 70. Яны, на думку беларускага прэзідэнта, развіваюцца дынамічна і даюць «выдатныя вынікі», значна апярэджваючы «цывільныя прадпрыемствы».

Структуру, мэты і задачы будучага «ударнага» ведамства беларускай эканомікі прэзідэнт схематычна абмаляваў. Мяркуецца, што пад крылом новай структуры апынуцца амаль усе дзяржаўныя прадпрыемствы ВПК. Хоць, як асабліва падкрэсліў Лукашэнка, «нават калі будуць і прыватныя прадпрыемствы, то яны будуць функцыянаваць пад поўным дзяржаўным кантролем. Так як гэта сёння і адбываецца».

Беларускі ваенна-прамысловы патэнцыял – трэба аддаць яму належнае – сапраўды вялізны, і перспектывы яго развіцця самыя добрыя. Па дадзеных Стакгольмскага міжнароднага інстытута вывучэння праблем міру (SIPRI), Беларусь яшчэ ў 1996 годзе ўпершыню ўвайшла ў дзесятку вядучых экспарцёраў узбраенняў і ваеннай тэхнікі (УВТ). Адпаведна ёсць перспектывы роста экспарта зброі і ваенных тэхналогіяў. І беларускі прэзідэнт, на думку экспертаў і спецыялістаў абаронкі, хоча кантраляваць гэты працэс аж да апошняга патрона, бо гэта прыносіць каласальны даход у бюджэт краіны. Па дадзеных таго ж Стакгольмскага SIPRI, у 1997–2000 гадах Беларусь зарабіла на продажы зброі звыш 1 мільярда рублёў.

Беларускі ВПК, на думку крыніцаў «НГ», цалкам канкурэнтаздольны ў адносінах да ВПК расейскага, і калі Лукашэнка ўзмацніць гэтую галіну прамысловасці, то зможа канкурыраваць з расійскім віцэ-прэм'ерам Барысам Алешыным, які курыруе «Рособоронэкспорт».

Можна дадаць, што на гэты момант Беларусь знішчыла болей за 10 працэнтаў усіх узбраенняў і ваеннай тэхнікі, прадугледжаных для ліквідацыі ў адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі, і выканала ўсе дагаворныя абавязацельствы па скарачэнні ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі. Апроч таго, з 1 сакавіка 2004 года для Беларусі ўступае ў сілу Атаўская канвенцыя аб забароне выкарыстання, назапашвання, вытворчасці і перадачы супрацьпяхотных мінаў (СПМ) і аб іх знішчэнні. І нарэшце, Беларусь з 1993 года рэгулярна і своечасова прадастаўляе дадзеныя ў Рэгістр ААН аб экспарце-імпарце звычайных узбраенняў і ваеннай тэхнікі. Аналагічную справаздачу Мінск накіроўвае і ў АБСЕ.

Іншая справа – ці вераць за мяжой беларускім справаздачам.

**Ігар ПЛУГАТАРОЎ,**
**Антон ХАДАСЕВІЧ**

*ng.ru*

*Друкуецца ў скароце*

## Мафія вечная

### Як будаваўся оперны тэатр?

Міністэрства па надзвычайных становішчах настойвае на закрыцці Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета на капітальны рамонт. Па папярэдніх падліках, на капітальны рамонт патрэбна 90 мільярдаў рублёў.

Мяркуецца, што балетная трупа на перыяд капітальнага рамонту будынка размесціцца ў Палацы Рэспублікі, а оперная – у Дома афіцэраў.

Практыка паказвае, што рамонт помнікаў архітэктуры, хай сабе і адносна маладых, як наш Вялікі тэатр, заўсёды расцягваецца на некалькі год. Да прыкладу, у часы СССР Латвійскі і Львоўскі Вялікія тэатры рамантаваліся па 8–10 год. Гэта пры тым, што тады не было дэфіцыту фінансавых сродкаў.

Будзем спадзявацца, што будынак Вялікага тэатра адрамантуюць і нават вернуць яму першапачатковы выгляд. Напрыклад, адновяць схаваныя за некалькімі слаямі фарбы насценныя роспісы.

У сувязі з хуткім ужо рамонтам міжволі ўзгадваюцца некаторыя гісторыі, звязаныя з першапачатковым будаўніцтвам гэтага архітэктурнага шэдэўра.

У кнізе «Ёсць такая служба», прысвечанай абаронцам эканамічных інтарэсаў нашай краіны, змешчаны артыкул пра злоўжыванні падчас узвядзення Вялікага тэатру оперы і балету Беларусі. Вось як гэта было.

Злачынная група ў складзе былых начальніка будоўлі опернага тэатра Я.Куфмана, касіра ўпраўлення будоўлі М.Гулякевіча, загадчыка планавага аддзелу Я.Рытэнбанда, галоўнага бухгалтара будтрэста І.Стаўровіча так папрацавалі, што страты за 1937 год склалі 1.811.000 рублёў. А пачыналася ўсе вельмі проста: спачатку Куфман і Рытэнбанд самі сабе павысілі заробак на 300 рублёў у месяц. Каб было зручней «працаваць», па Куфманавым загадзе ў банку быў адкрыты таямнічы «рахунак прамкааперацыі». Усе праводкі па ім рабіліся, мінаючы бухгалтэрыю.

У ходзе следства было высветлена, што Куфман аплачваў камандзіроўкі, не патрабуючы дакументальнага пацверджання выдаткаў. Яго кампаньёны складалі фіктыўныя паперы і кожны месяц атрымлівалі грошы «на лекавыя мэты». Гэтыя грошы зноў-такі ніяк не праводзіліся праз бухгалтэрыю. Наадварот, рабілася ўсё магчымае, каб заблытаць дакументацыю. Бухгалтара Стаўровіча суд ахарактарызаваў як майстра фальшывак. Ведаючы, што на будоўлі адна з самых высокааплатных прафесій – землякопы, ён вырашыў разам з хаўруснікамі зарабіць на гэтым. Разам з тэхнікам Ермаліцкім бухгалтар прыйшоў да касіра Гулякевіча. На своеасаблівай нарадзе яны распрацавалі, як цяпер кажуць, «схему», па якой грошы землякопаў будуць апынацца ў іх кішэні. Па гэтай «схеме» на працягу двух гадоў было скрадзена 70 тысяч рублёў. З іх 15 тысяч дасталося Стаўровічу, астатнія – Ермаліцкаму, Гулякевічу і Куфману. У Стаўровіча як у бухгалтара была магчымасць «уносіць праўкі» ў любы дакумент, што ён і рабіў, каб яшчэ раз атрымаць грошы.

Касір Гулякевіч не адмаўляўся ад удзелу ў крадзяжах, але ён не памятаў, колькі скраў, бо не вёў уліку злачынных даходаў. А вось следства падлічыла, што касір скраў 22 тысячы.

Ермаліцкі, будаўнік па прафесіі, меў талент выдумляць прозвішчы неіснуючых будаўнікоў і складаць дакументы на такія ж няісныя працы. Гэта ён рабіў правай рукой, а левай распісваўся за гэтых «будаўнікоў» у ведамасцях на атрыманне заробку.



Усе ўдзельнікі злачыннай групы былі звязаны паміж сабой змовай, што дазваляла ім лёгка «замятаць сляды». Аднак здараліся і ў іх непрыемнасці. Адзін з хаўруснікаў, нехта Рыбакоў, нешта не падзяліўшы з астатнімі, прыгразіў, што «здасць усіх». На кватэры ў Куфмана адбылася нарада, на якой вырашылі даць Рыбакову 1.000 рублёў і выправадзіць яго з Мінску. Перадаваў грошы Эйдзін. Гэтая асоба заслугоўвае адмысловай увагі. Ён працаваў кіраўніком дамоў у Белпрамбудтрэсце. Па-першае, па Куфманавай пратэкцыі яму прапанавалі невялікія будаўнічыя падрады. Ніхто не звяртаў увагі, што ён не мае адпаведнай спецыяльнасці. Але дачыннасць да будоўлі дазваляла красці паводле Куфманавай «схемы». Па-другое, Эйдзін выконваў розныя далікатныя даручэнні. Напрыклад, набываў дарагое сукно для гарнітура «ў падарунак» былому дырэктару Белпрамбудтрэста Гімельштэйну, які таксама апынуўся на лаве падсудных. Эйдзін прыдумляў шмат спосабаў для папаўнення сваёй кішэні. Напрыклад, яму даручылі набыць шпалеры. Ён заплаціў за іх 500 рублёў, а потым па гэтым жа рахунку атрымаў грошы яшчэ раз.

Па гэтай справе праходзіла шмат саўдзельнікаў кіраўнікоў-злачынцаў. Усе «працавалі» па адным метадзе – абкрадалі рабочых-будаўнікоў, займаліся фальсіфікацыяй дакументаў. Нават сродкі, прызначаныя на набыццё тэхнічнай літаратуры, хаўруснікі дзялілі між сабой, а потым афармлялі фальшывы акт.

Адзін з цікавых эпізодаў – калі на судзе агучылі «загад», які выдаў Куфман. Справа ў тым, што Стаўровіч неяк несвоечасова «аформіў» фальшывыя дакументы. Дык начальнік нагадаў бухгалтару, што справа тэрміновая.

Абраўшы будаўнічую пляцоўку Вялікага тэатра арэнай для сваіх злачынных спраў, Куфман і яго сябры паставілі будоўлю ў цяжкае матэрыяльнае становішча. Пры гэтым тэрміны будаўніцтва зацягваліся, і яно неймаверна даражэла. Паводле заключэння экспертаў-бухгалтараў, якое яны зрабілі пасля вывучэння ўсіх бухгалтарскіх дакументаў, абвінавачаныя скралі 310 тысяч рублёў. З гэтай сумы 153 тысячы атрымана па фальшывых дакументах.

За сістэматычнае раскраданне дзяржаўных сродкаў, за нанясенне дзяржаве шкоды на будоўлі суд вынес вердыкт: Куфмана, Стаўровіча і Гулякевіча пакараць праз расстрэл. Ермаліцкі, Эйдзін атрымалі па 10 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і паразай у правах на 5 гадоў пасля зняволення. Астатнім падсудным былі вынесены прысуды на розныя тэрміны пазбаўлення волі.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

# Сцягі беларускага руху

***Пад імі беларусы йшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына***

У пачатку 1970-х гадоў аператыўнікі КДБ БССР шукалі сцяг Беларускай Народнай Рэспублікі. Яго, нібыта, хаваў хтосьці з менскіх інтэлігентаў. Пагалоска пра сцяг разышлася сярод студэнтаў і аспірантаў БДУ, пераважна ўраджэнцаў Заходняй Беларусі. Па адной з версіяў, сцяг прывезлі з сабой беларускія дэсантнікі, перакінутыя праз мяжу амерыканцамі. Але зусім магчыма, што ён паходзіў з Вільні, ад кагосьці са старых віленчукоў-беларусаў...

Беларусы часцей губляюць свае нацыянальныя святыні, чым знаходзяць. Да пошукаў галоўнай з іх – крыжа св. Еўфрасінні Полацкай падключыліся нават чэкісты, але рэальнага выніку дасюль няма. Не шануем мы сваіх святыняў, нядбайна іх захоўваем, не даацэньваем іх значэння і ролі. Гэта пацвярджае лёс некалькіх беларускіх нацыянальных сцягоў, якія зніклі ў віры Другой сусветнай вайны.

### Ад Слуцкай брыгады - «лясным братам»

Першы Слуцкі полк арміі Беларускай Народнай Рэспублікі, які ваяваў супраць бальшавіцкіх войскаў, у снежні 1920 года атрымаў свой палкавы сцяг. Паводле ўспамінаў паўстанца Аляксея Кабычкіна, «беларускія жанчыны Гоарадзеншчыны ахвяравалі паўстанцам надта прыгожы сцяг з надпісам: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Камандзір паўстанцаў Антон Сокал-Кутылоўскі дадаваў, што быў ён «надзвычай мастацкага выканання», выраблены «беларускімі жанчынамі патрыёткамі». Сцяг быў залацістага колеру (памер ягоны – 2 метры ў даўжыню і 1 метр у шырыню), у цэнтры меў вышытую Пагоню (каля 45 см у дыяметры) і надпіс: «Першы Слуцкі полк стральцоў Беларускай Народнай Рэспублікі». На вядомым здымку сцягу не відаць надпісу, згаданага Кабычкіным, але ён мог быць з адваротнага боку.

Пасля паразы беларускіх ваяроў і інтэрнавання іх палякамі случчакі хавалі сваю «вайсковую і нацыянальную святыню» ў лагеры ў Дарагуску. Па вызваленні яе забраў з сабою камандзір – Сокал-Кутылоўскі.

Перад Сокал-Кутылоўскім паўстала праблема: што рабіць з архівам і сцягам паўстанцаў? Летам 1921 г. ён перадаў архіў 1-й Слуцкай брыгады Браніславу Тарашкевічу ў Вільні, а сцяг спрабаваў прыхаваць у Навагрудскім праваслаўным саборы, але епіскап Панцеляймон на гэта не даў згоды. Цяжка сказаць, чаго ў праваслаўнага іерарха было болей: страху перад польскімі ўладамі ці нянавісці да беларускага руху... Былы камандзір паўстанцаў, які неўзабаве стаў праваслаўным святаром, пакінуў сцяг у сябе. Ён вандраваў з ім па Заходняй Беларусі, па прыходах, дзе прызначаўся настаяцелем. У Казлоўшчыне сярод яго прыхажанаў былі антыпольскія беларускія партызаны, якія яшчэ не склалі зброі. А ў 1931 годзе польская паліцыя ўчынілаператрус у памяшканні Сокал-Кутылоўскага, сцяг быў знойдзены і канфіскаваны.

Успаміны пра лёс сцягу случчакоў іх камандзір напісаў у снежні 1944-га ў Берліне. Больш ніякіх згадак пра тое, што з ім сталася далей, не было. Здаецца, яго напаткаў лёс апошняга асобніка газеты «Свабода», захопленага расейскай паліцыяй у 1902 г. і дагэтуль не адшуканага. Дзіўная гісторыя адбылася і з адзіным здымкам сцягу случчакоў. Ва ўсіх публікацыях да нядаўняга часу пазначалася, што каля яго знаходзяцца Лявон Вітан-Дубейкаўскі і Антон Сокал-Кутылоўскі. Па словах гісторыка Уладзіміра Ляхоўскага, толькі ў мінулым годзе высветлілася, што на здымку насамрэч не Сокал-Кутылоўскі, а капітан Антон Борык, былы начальнік штабу 1-й Слуцкай брыгады войскаў БНР.

Гісторыя за сцягам слуцкіх паўстанцаў мае працяг. Гісторык Алег Латышонак нядаўна пераказаў пачутую калісьці версію, паводле якой сцяг случчакоў захоўваўся ў Пражскім архіве беларускай эміграцыі, які знік у першыя пасляваенныя гады. А Ніна Стужынская дапускае, што, калі сцяг захаваўся, дык яго трэба шукаць у маскоўскім архіве ФСБ... У ліпені 1997-га ў Вільні, падчас сесіі Еўрапейскага сектару Рады БНР, спаткаў цяпер ужо былога супрацоўніка Радыё «Свабода» Сяргея Сокалава-Воюша. На эміграцыі ў пачатку 90-х ён збіраў звесткі пра пасляваенны беларускі супраціў і нават знайшоў яго жывых удзельнікаў. Па нейкіх прычынах падрыхтаваныя ім праграмы гэтай тэматыкі так і не былі дапушчаныя ў эфір. Дык вось, па звестках Сокалава-Воюша, «сцяг слуцкіх паўстанцаў быў у партызанаў Вітушкі». У гэта, аднак, цяжка паверыць. Зусім магчыма, што быў гэта іншы сцяг, вакол якога паўстала прыгожая легенда. Бо вельмі ж хочацца верыць, што нашыя нацыянальныя святыні не знікаюць бясследна – вяртаюцца, калі прыходзіць іх час.

### Яго перахоўвалі каля Берліну

Пасля смерці ў сакавіку 1943-га ў Празе прэзідэнта БНР Васіля Захаркі Ларыса Геніюш і Мікола Абрамчык ратавалі не толькі ягоны архіў. Менш вядомы факт, што яны выратавалі і прэзідэнцкі сцяг БНР. Але лёс ягоны, як і архіва, пакуль невядомы...

Перахоўваць сцяг даручылі супрацоўніку Абрамчыка ў Берліне Станіславу Грынкевічу. Ён аднёсся да гэтага з усёй адказнасцю, называючы пасля ў сваіх успамінах сцяг няйнакш як «святой» альбо «дарагой нацыянальнай памяткай». Баючыся, што сцяг можа загінуць падчас налётаў авіяцыі на Берлін, С.Грынкевіч хаваў яго ў некалькіх дзесятках кіламетраў ад горада. Так працягвалася два гады.

У пачатку сакавіка 1945-га ён вырашыў перадаць яго камандзірам беларускага дэсантнага батальёна «Дальвіц» Івану Гелду і Усеваладу Родзьку. Сустрэча адбылася ў берлінскім гатэлі «Гамбургер Гоф». «Выйсніўшы мэту свайго прыбыцця, я выняў з партфеля нашую нацыянальную святасць – бел-чырвона-белы сцяг Прэзідэнта Захаркі, – успамінаў у 1949 годзе С.Грынкевіч. – Усхапіліся з месца маладыя арлы-жаўнеры. З адпаведнай дзеля пашаны паставаю стаўшы на калені, узяў з маіх рук сябра камандзір (Родзька. – С.Ё.) сцяг, пацалаваў яго і з павагай і моцай прысягі выказаў гэткія словы: «Уздымем яго высока, або ён пакрые нас!»

Які быў далейшы лёс прэзідэнцкага сцягу? У траўні 1945-га ў Чэхіі батальён «Дальвіц» падзяліўся на групы, якія прабіваліся альбо на Захад, альбо на Усход. Група Родзькі апынулася ў Польшчы. Наўрад ці сцяг быў схаваны ў Чэхіі, хутчэй за ўсё Родзька забраў яго з сабой - меркаваў, што ў антыбальшавіцкай партызанцы ён будзе вельмі дарэчы. Вось і Грынкевіч сцвярджае, што «дарогай падпольнай вандроўкі пайшоў сцяг Прэзідэнта БНР на Бацькаўшчыну, каб там быць сведкам і ўдзельнікам крывавай долі свайго народу».

Восенню 1945-га Родзька быў арыштаваны чэкістамі ў Беластоку. Рэчы ягоныя, сярод якіх мог быць і прэзідэнцкі сцяг, не адразу патрапілі ім у рукі, бо іх паспеў забраць у Варшаву Лявон Луцкевіч. Але і сам Луцкевіч разам з братам Юркам не пазбег «кіпцюроў ГПУ». Такім чынам, сцяг прэзідэнта БНР Васіля Захаркі, хутчэй за ўсё, трапіў у рукі дзяржбяспекі. Існуе, праўда, малая верагоднасць, што яго выратаваў нехта з Родзькавай групы, хто пазбег арышту. Лёс жа гэтых людзей быў такі. Некалькі хлапцоў схаваліся ў Польшчы, некаторыя ўцяклі на Захад (напрыклад, Юрка Сянькоўскі, шматгадовы супрацоўнік Радыё «Свабода», які памёр у 1995 г.), а іншыя перабраліся ў Беларусь (напрыклад, лейтэнант Аляксандр Латышонак, якога таксама ўжо няма ў жывых).

Меў свой сцяг і батальён «Дальвіц». У снежні 1944-га ў яго складзе знаходзіліся два сцяжных: Валасевіч і Мазура. Лёс гэтага сцягу, як і многіх іншых, застаецца не высветленым.

### Знік у Польшчы

Адным з самых баяздольных і вядомых беларускіх вайсковых аддзелаў у часы Другой сусветнай вайны быў Навагрудскі эскадрон Барыса Рагулі («рагулёўцы»). Ён паўстаў у канцы 1943 года. Касцяк эскадрона склала патрыятычная моладзь з Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. Прысяга «рагулёўцаў» адбывалася 25 сакавіка 1944 года на галоўным пляцы Навагрудка. Да гэтай падзеі дзве сястры эскадронаўца М. зрабілі прыгожы сцяг аддзелу. На ім была вышытая залацістая Пагоня і герб Навагрудка, а на чорным трыкутніку каля дрэўка – надпіс: «Першы Беларускі Эскадрон».

Пад гэтым сцягам «рагулёўцы» не толькі прысягалі народу і Бацькаўшчыне, але і хавалі сваіх палеглых сябрбў. Тры месяцы ён быў з імі, аж да таго часу, як у пачатку ліпеня 1944 г. Б.Рагуля, фактычна распусціў свой батальён БКА (у яго склад з вясны 1944-га ўваходзіў эскадрон) на Замкавай гары ў Навагрудку. На Захад выехаў толькі касцяк эскадрона. Камусьці з гэтых хлопцаў і даверыў перахоўваць сцяг камандзір – Барыс Рагуля.

Некаторыя былыя рагулёўцы ўпэўненыя, што іх сцяг павінен быў вывезці на Захад сам Барыс Рагуля. «Напэўна, ён яго дзесьці і зберагае», – кажа адзін з іх, былы падафіцэр эскадрону Аўген Усюкевіч. Нічога не ведаў пра лёс сцягу намеснік Рагулі, апошні камандзір эскадрона Уладзімір Сіўко, які летам 1944-га ляжаў пасля аперацыі ў шпіталі, таму і застаўся ў Беларусі. «Можа, хлопцы яго вывезлі на Захад?» – меркаваў ён падчас нашай размовы летам 1996 года. Каб высветліць сітуацыю, у красавіку 2001-га я звярнуўся да Рагулі, які цяпер жыве ў Канадзе.

«Сцяг быў у сцяжнога, – успамінаў Б.Рагуля. – І ён прапаў у Польшчы, дзе думаў прыхавацца. Не ведаю яго лёсу і не памятаю прозвішча гэтага маладога хлопца. У Польшчы многія хаваліся, але ўсіх іх знайшлі...». Знайшла дзяржбяспека ў Польшчы далёка не ўсіх «рагулёўцаў», што вырашылі там прыхавацца і змянілі прозвішчы. Хочацца верыць, што лёс сцяжнога быў шчаслівым, што ён выжыў сам і выратаваў сцяг Навагрудскага эскадрона.

Прыгадваецца і гісторыя з «Слонімскай Пагоняй», якая ў 1930-х гг. была вышытая сястрой паэта Сяргея Новіка-Пяюна Кацярынай. У вайну яна экспанавалася ў слонімскім краязнаўчым музеі, а ў пасляваенны час, пакуль Новік-Пяюн не выйшаў з турмы, «Слонімскую Пагоню», нягледзячы на рызыку, хавала сям'я Кацярыны. Пасля сумнавядомых рэферэндумаў сярэдзіны 90-х яна была знятая з экспазіцыі і патрапіла ў запаснікі аднаго з менскіх музеяў...

Не раз ужо даводзілася пераконвацца, што найлепш захаваліся беларускія нацыянальныя памяткі, якія калісьці трапілі ў рукі КДБ. Савецкія спецслужбы акуратна збіралі захопленыя «трафеі». Мо далёка не да ўсяго цяпер мы маем доступ, але хоць ёсць надзея, што калісьці ўсё зменіцца. Можа, у сховішчах дзяржбяспекі ўдасца адшукаць і некаторыя са згаданых у гэтым артыкуле беларускіх сцягоў? Хто ведае...

**Сяргей ЁРШ**



## Каляды

**Анеля КАТКОВІЧ**

**Каляды**

Сёньня Каляды –
Хрыстос нарадзіўся.
Цешацца людзі, што ім
аб'явіўся.
Елкі ўбралі, песьні сьпяваюць,
Госьці прыходзяць – жаданьні
складаюць.
Кожны імкнецца быць са сваімі.
Сьвята праводзіць не із чужымі,
А ў роднай хатцы, дзе хто
радзіўся,
Да грудзей маткі дзе ён туліўся.
І я хацела б быць дома сяньня,
Дзяліць з другімі радасьць
каханьня,
На спацыр выйсьці – суседаў
адведаць,
Музыкі паслухаць і пабяседваць.
Мела і я каліс родную хатку,
Братоў, сясьцёр, бацьку і матку.
Куцьцю ўрачыстую і мы
прыгатаўлялі,
Сьвечкі і цацкі на елку чаплялі.
*1949*

**Алесь САЛАВЕЙ**

**Каляды**

Зіма. Мароз. Пагодны дзень.
А сьнег, як зорны шчыт,
іскрыцца.
Прыгрэла сонца кагадзе, –
Ня хоча Дзед Мароз скарыцца.
А дзеці дружнаю гурбой
Прастуюць зь лесу церазь лляды
І елку цягнуць за сабой...
Успомніў я – ідуць Каляды!
*11. XII. 1942*

**Максім ТАНК**

**Елка**

На новы год пасвяткаваць
У горад завітала ёлка.
Няцяжка мне было пазнаць
Зямлячку па яе іголках,

Па свежай зелені густой,
Па ўсім уборы саматканым.
Я быў сустрэчаю такой
Да глыбіні ўсхваляваны.

Я прывітаў яе хутчэй,
За што былы яна, вядома,
Удзячна мне, і весялей
Мы разам пабрылі дадому.

І вось прыбраная стаіць
Яна ў пакоі і гаварыць
Пра дальнія лясы, гаі,
Пра залатыя ў небе зоры;

Пра тое, як зара гарыць,
Як серабрыстаззяе іней,
Як замялі ў палях вятры
Шляхі да бацькаўскай хаціны...

Я доўга з ёю гаварыў,
Як госцю частаваў багата,
Агні і зоры запаліў
На цёмных лапках расахатых.

А сам, калі ўсё кругом
Сном навагоднім, моцным спала,
Наведаць свой бацькоўскі дом
Ад'ехаў з бліжняга вакзала.

І вось дзівуюцца сябры:
Хто выклікаў мяне прыехаць
На сцежкі даўнія ў бары,
Пад родныя нізкія стрэхі?
*23.12.1945*

# Шлях маладых




Афіцыйна грамадская арганізацыя «Малады Фронт» не існуе. Цягам доўгага часу яна падавала і падае дакументы на рэгістрацыю, але пакуль што станоўчага вырашэння справа не атрымала. Тым не менш у рэальным грамадскім жыцці Малады Фронт прысутнічае: ладзіць акцыі, падае заяўкі на пікеты, яго чальцоў штрафуюць, яны трапляюць на Акрэсціна, у іх ёсць свае прыхільнікі, і карціна палітычнага «апазіцыйнага» жыцця краіны будзе істотна скажоная, калі на яе глядзець без увагі на «маладафронтаўцаў» і на іх лідэра Паўла Севярынца.

Бо сёння незарэгістраваны МФ – гэта 72 рэгіянальныя структуры, 10.000 чалавек па спісах і з іх 2.000 рэальных актывістаў ва ўзросце ад 14 да 30 гадоў. «Пакаленне Маладога Фронту – гэта вялізны зарад, патэнцыял пераменаў, небывалы дынамізм і размах; пакаленьне наколькі волевае, настолкі й разняволенае... Пакаленне, якое стварае нацыю... Пакаленне пераменаў», – піша ў сваёй кнізе «Пакаленьне Маладога Фронту» Павел Севярынец пра два мільёны народжаных з 1970 па 1985 год,і, у першую чаргу, непасрэдна пра сяброў руху МФ.

Мне ўдалося задаць некалькі пытанняў актывістам руху. Безумоўна, гэта не агульны партрэт «маладых фронтаўцаў». Але якія яны (сябры МФ), што думаюць пра свой рух, як сябе ў ім пачуваюць, можна меркаваць па іхніх адказах. Выказаць свае думкі, погляды пагадзіліся:
**Наталля Кійко**(у МФ амаль 5 год),
**Віктар Прастакоў** ( у руху 4 гады),
**Барыс Гарэцкі** ( у руху 3 гады),
**Алег Гнетчык** ( 2,5 гады ў руху),
**Вольга Куўшынава** ( 2 гады ў МФ),
**Міша Дзямідаў** (2 гады ў руху),

***– Чаму менавіта МФ, а не які іншы рух ці партыя?***

**Наталля**: Таму што адпавядае маім інтарэсам.

**Віктар:** Таму што МФ – гэта найбольш адпавядаючая маім уяўленням пра арганізацыю, моладзевая сіла, якая змагаецца за сваю краіну.

**Барыс:** Таму што МФ – гэта суполка сапрўды актыўнай моладзі. Лічу яе мацнейшай за ўсе іншыя, што грунтуюцца адначасова на нацыянальнай ідэі і хрысціянскіх прынцыпах. Для мяне гэта важна.

**Алег:** Сучасная і модная арганізацыя.

**Вольга:** Па-першае, гэта дэмакратычны рух, па-другое, тут ёсць выдатная магчымасць самарэалізавацца.

***– Сябры па руху, якія яны?***

**Наталля:** Нашы густы супадаюць.

**Віктар:** Перш за ўсё маладыя. Галоўнае ж – адданыя сваёй ідэі.

**Барыс:** Мы поўныя сілаў і ідэй. Мы дзейсныя і здольныя змяніць Беларусь Мы вясёлыя.

**Алег:** На сяброў можна разлічваць.

**Вольга:** Файныя.

**Міша:** Такія, як і я.

***– Чым цікавішся, займаешся ў вольны ад вучобы( працы) і ўдзелу ў руху час?***

**Наталля:** Я мастачка. Мастацтва ж для мяне і праца, і хобі, і проста адпачынак. Значнае месца ў маім жыцці займае каталіцтва.

**Барыс:** Па спецыяльнасці я мікраэлектронік. Займаюся кампутарамі і іншай тэхнікай. Слухаю беларускую музыку і сустракаюся з беларускамоўнай дзяўчынай.

**Алег:** У вольны час займаюся вывучэннем ангельскай.

**Вольга:** Вольны час праводжу з сябрамі. Але яго зусім мала. Спрабую запоўніць яго тэатрам, музыкай, кіно. Цікаўнасцяў, насамрэч, вельмі шмат. Шкада, што на ўсё не хапае часу.

**Міша:** Баўлю яго з сябрамі.

***– У якіх акцыях МФ удзельнічаеш з задавальненнем?***

**Віктар**: Ва ўсіх, што звязаныя з культурай і адукацыяй.

**Барыс:** З задавальненнем?.. У Дні Святога Валянціна.

**Вольга:** Мне падабаецца ўдзельнічаць у акцыях супраціву, міжнародных і культурніцкіх

**Міша:** У тых, на якія хапае часу.

**– Што адрознівае сённяшні МФ ад таго, у які вы ўступалі?**

**Наталля:** Хутчэй змянілася я.

**Віктар:** МФ стаў самастойным і прафесійным, менш масавым.

**Барыс:** Сення гэта рух адукаваных і лепш інфармаваных людзей.

**Алег:** МФ змяняецца пастаянна і пакуль, мне здаецца, у лепшы бок.

**Вольга:** Пачаліся лідэрскія выпрабаванні. Змяняецца кіраўніцтва.

**Міша:** Зараз іншыя ўмовы дзейнасці.

***– Якія змены патрэбны сённяшняму МФ? Што б ты прапанаваў перайначыць?***

**Віктар:** Пытанні лакальнай дысцыпліны, устаноўку на 100-працэнтную рэгістрацыю. Я б заняўся папулярызацыяй МФ у шырокіх колах моладзі, замест замыкання на вузкапалітычнай скіраванасці.

**Барыс:** Я прапаноўваю у МФ звяртаць больш увагі на сяброў і іх праблемы. Пашырыць уплыў на моладзь можна за кошт нашых мерапрыемстваў «Шоу Беларушчыны» і адукацыйных праектаў.

**Алег:** Я б дадаў дысцыплінаванасці.

**Вольга:** Я б пакінула ўсяя як ёсць.

***– Што падабаецца, а што не падабаецца ў асобе старшыні руху?***

**Наталля:** Я паважаю Паўла Севярынца за тое, што ен адстойвае хрысціянскія прынцыпы.

**Віктар**: Вера, прынцыповасць.

**Барыс:** Дакладнасць, шчырасць, адназначнасць, адкрытасць, беларускасць і сістэмную працу.

**Алег:** Я не ведаю іншага чалавека, які так «хварэе» за Беларусь.

**Вольга:** Вельмі падабаецца яго шчырая вера ў Бога. Харызмат. Не падабаецца?.. Крыху напружвае, што за ягонымі ідэямі цяжка ўгнацца.

Паводле далейшай размовы, маладафронтаўцы прызналіся, што ўдзел у руху кардынальна змяніў іх жыцце.

**Вольга:** Наша дзейнасць абавязвае нас быць лепшымі ва універсітэтах і ў іншых навучальных установах: раней за ўсіх здаваць кантрольныя, лепш за ўсіх – экзамены і залікі, ведаць гісторыю Беларусі, размаўляць па-беларуску, арыентавацца ў палітыцы. Я не магу сцвярджаць гэта за ўсіх, але што да гэтага імкнецца большасць – дакладна.

***

Удзел у МФ – гэта не толькі імкненне быць лепшым, гэта, на жаль, і «адсідкі», і штрафы, і непаразуменні з блізкімі людзьмі, і іншыя спецыфічныя праблемы, з якімі, да прыкладу, не сутыкаюцца ў сваім жыцці БРСМаўцы і простая моладзь, якая не задумваецца над будучыняй і не плыве супраць агульнай плыні.

Але ж вядома, што «супраць цячэння можа плыць толькі жывое»...

**Алеся МАТУСЕВІЧ**

## Зона адсялення

# Тэрыторыя бядоты

Яшчэ да 15-годдзя Чарнобыльскай трагедыі эксперты ААН падрыхтавалі даклад «Міф аб наступствах Чарнобыля выкрыты». У прыватнасці, былі зроблены высновы аб тым, што медыцынскія наступствы аварыі перабольшаны; адсяленне людзей з родных мясцін прывяло да сацыяльных катаклізмаў і жыцця ў стане пастаяннага стрэсу. З упэўненасцю можна меркаваць, што такі даклад найперш быў зроблены дзяля таго, каб сусветная грамадскасць з лёгкай душой зменшыла фінансаванне на ліквідацыю наступстваў аварыі.

Але і ў нашай краіне папулярызуецца думка, што з кожным годам усё больш чарнобыльскіх земляў становяцца прыдатнымі для жыцця і вядзення сельскай гаспадаркі. Пакрысе скарачаліся розныя льготы, пераразмяркоўваліся грошы з аднаго чарнобыльскага артыкула бюджэту на іншы.

У рэспубліканскім бюджэце на наступны год фінансаванне Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні наступстваў катастрофы на ЧАЭС недастатковае. У прыватнасці, спецыялісты лічаць, што запланавана недастаткова сродкаў на «комплекс работ у зонах адчужэння і адсялення». У адселенай вёсцы Барталамееўка Гомельскай вобласці нам давялося ўбачыць гэты «комплекс работ». Бульдозер рушыць будынак, а потым яго закапваюць у спецыяльны магільнік. Месца, на якім быў дом, вельмі падобнае на магілу – няма толькі прыгорку. Але такое пахаванне дамоў хавае і шанцы разнесці радыяцыю па ўсёй вобласці. Здавалася б, за 17 год нашы гаспадарлівыя людзі ўсё што можна, вынеслі, вывезлі з зоны адсялення, нягледзячы на тое, што яна ахоўваецца міліцыяй. Але па сённяшні дзень па адселеных вёсках ходзяць чарнобыльскія «нарыхтоўшчыкі» і збіраюць, што засталося. Асаблівы непакой выклікаюць тыя, хто збірае металалом ці зрывае шыфер з дахаў, бо менавіта ў іх шмат накапілася радыенуклідаў. Міліцыя прадухіляе вываз маёмасці з адселеных вёсак. Напрыклад, у мінулым годзе такіх выпадкаў было каля 40 толькі ў Гомельскай вобласці. Гэта пры тым, што на аднаго міліцыянта з узводаў па ахове зоны адсялення прыходзіцца прыкладна па 2–3 «мёртвыя» вёскі.

Не першы год ідзе гаворка аб неабходнасці пераспецыялізацыі сельска-



**Заселены дом у адселенай вёсцы**

гаспадарчых прадпрыемстваў. Існуюць спецыяльныя тэхналогіі перапрацоўкі мяса, малака, каб з яго «прагнаць» радыяцыю. Навукоўцы даказалі, што калі ўдвая больш даваць мінеральных угнаенняў, то можна сабраць «чысты» ураджай. Але і на гэты артыкул выдаткаў выдзелена недастаткова грошай.

Амаль у кожным раёне яшчэ ёсць самасёлы – людзі, якія вярнуліся ў выселеныя вёскі, бо не прыжыліся на новых месцах. Толькі ў Гомельскай вобласці такіх налічваецца больш за 360 чалавек. Зразумела, што яны вымушаны весці натуральную гаспадарку. Па лясных дарогах у надзеі не сустрэцца з міліцэйскім патрулём яны цягнуць у пункт прыёму той жа металалом. Збор ягад і грыбоў – адзін з даходных артыкулаў бюджэту чарнобыльскіх сем'яў, хоць вядома, што ў грыбах назапашваецца шмат радыяцыйнага бруду. Другое месца па забруджванні пасля грыбоў займае малако, але амаль кожная сям'я самасёлаў мае сваю карміліцу.

Улады змірыліся з такой унікальнай з'явай, як самасёлы. У апошнія гады іх пачалі нават «легалізаваць»: людзі атрымліваюць прапіску, ім прывозяць пенсіі, па магчымасці іх наведвае доктар. Калі дзе што засталося, то ўзнаўляюць камунікацыі. Але ўсё ж гэта – адзінкавыя выпадкі.

Для тых жа людзей, якія жывуць, так бы мовіць, у зоне рызыкі, робяцца пэўныя захады, каб растлумачыць, як пазбегнуць небяспекі. Напрыклад, 9 снежня ў Добрушскім раёне Гомельскай вобласці адбыўся рэспубліканскі семінар па інфармацыйнай працы. Як паведамілі ў прэс-цэнтры Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на ЧАЭС пры Савеце Міністраў, практычная частка семінару прайшла ў вёсцы Дубовы Лог. Там з дапамогай італьянскіх спецыялістаў створаны комплексны інфармацыйны цэнтр. З яго дапамогай кожны мясцовы жыхар можа тэрмінова атрымаць інфармацыю пра стан зямлі і наваколля. Там жа можна праверыць «чысціню» прадуктаў харчавання і даведацца аб выніку праверкі. Цэнтр падключаны да інтэрнэта, а з яго дапамогай, як вядома, можна скантактавацца з самымі рознымі структурамі і атрымаць адказы на свае пытанні. Трэба спадзявацца, што цэнтр стане нармальнай працуючай структурай, а не «пацёмкінскай вёскай» для чынавенства.

У пэўным сэнсе жыццё перакрэсліла тэзісы раней узгаданага дакладу ААН. Ды і гэта арганізацыя прыняла ўдзел у падпісанні Дэкларацыі прынцыпаў міжнароднай праграмы CORE «Супрацоўніцтва для рэабілітацыі». Ад імя партнёраў-донараў гэты дакумент падпісалі Камчарнобыль, Праграма развіцця ААН (ПРААН), ЮНЭСКА, офіс АБСЕ ў Мінску, Швейцарскае агенцтва па развіцці і супрацоўніцтве, Камітэт па партнёрству і падрыхтоўцы праграмы CORE, Ірландская дабрачынная арганізацыя «Студэнцкі 10-кіламетровы марафон у дапамогу Чарнобылю», раённыя выканаўчыя камітэты Брагіна, Слаўгарада, Століна і Чачэрска, а таксама шэраг дыпламатаў. Бюджэт гэтай праграмы складае 4 мільёны еўра. Плануецца скарыстаць іх на ўзнаўленне і ўстойлівае развіццё пацярпелых ад Чарнобыльскай аварыі рэгіёнаў пры непасрэдным удзеле саміх мясцовых жыхароў у сацыяльна-эканамічных, медыцынскіх і іншых частках праграмы.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

# Каляды

Традыцыя святкаваць Каляды – аддаваць даніну сілам прыроды, боству Сонца, ад якога залежыць жыццё – надта старадаўняя. Яно прыходзілася на зімовы сонцаварот, і з ім былі звязаныя магічныя абрады, прызначаныя забяспечыць ураджай наступнага года. На Каляды па дварах хадзілі калядоўнікі, вадзілі з сабой «казла», «бусла», «мядзведзя». Часам калядоўнікі апраналіся ў воўчыя скуры, што абазначала ваўкалакаў-пярэваратняў. Згодна з вераваннямі, «Каза» памірала і адраджалася, што ў разуменні нашых продкаў адпавядала смерці бажаства сонца і яго аднаўленню. Нездарма свята было строга «астранамічным», прыпадала на самы кароткі дзень і самую даўгую ноч. Назаўтра пасля Калядаў дзень пачынаў прырастаць. Таму святкаванні «па старым стылі» - гэта пэўная праява недасведчанасці, прышчэпленая сярод праваслаўных, калі каталіцкая царква прыняла сучасны каляндар.

З прыходам хрысціянства на свята сонцаварота наклалася свята Нараджэння Хрыста, і ўсталяваліся своеасаблівыя традыцыі спалучэння язычніцкіх і царкоўных абрадаў. У савецкія часы святкаванне, якое некалі ладзілі нашыя продкі, падзабылася. Не заўсёды сённяшнія нашы суайчыннікі памятаюць, і з якой нагоды свята. Тым часам некаторыя старадаўнія і сучасныя звычаі беларусаў былі і ёсць сугучныя з традыцыямі суседніх краінаў. Нездарма ж у Еўропе усе каталіцкія, пратэстанцкія і бальшыня праваслаўных памесных цэркваў святкуе Нараджэнне Хрыстова ў адзін дзень, а тыя, хто трымаецца юліянскага календара, святкуе на два тыдні пазней.

### Калядны вянок

Традыцыя калядных вянкоў узнікла ў XVI стагоддзі. На іх ставіліся чатыры свечкі, якія азначалі чатыры нядзелі Адвэнту. У перакладзе з лаціны «адвэнт» азначае чаканне. Да чакання свята і дагэтуль вельмі ўважліва ставяцца ў пратэстанцкіх краінах, напрыклад у Швецыі. Там кожную нядзелю адвэнту запальваюць на вянку адну са свечак, што сімвалізуе святло, якое Хрыстос, нарадзіўшыся, прынёс у свет. На калядны вячэры вянок з усімі запаленымі свечкамі ставіцца на стол, за якім збіраецца ўся сям'я. Вянок, упрыгожаны арэхамі і сенам, у калядны час нашыя продкі вывешвалі на дзверы дома.

А вось яшчэ адна шведская традыцыя, якая цалкам падыдзе і для нас. Напярэдадні Калядаў гаспадыня кладзе ў сухое і цёплае месца апельсіны ці яблыкі, праткнутыя сухімі цвічкамі. Прыемны водар напаўняе пакой і трымаецца, пакуль садавіна цалкам не высахне.

### Паштоўка

У 1843 годзе англічанін Хорслей намаляваў першую ў свеце паштоўку. У той год іх разышлося каля 1.000 экзэмпляраў. А ўжо ў 1875 годзе выдаўца Луі Пранг правёў у Амерыцы агульнанацыянальны конкурс на лепшы яе дызайн. Паштоўка з паперы ці віртуальная і зараз застаецца адным з самых прыемных падарункаў на Нараджэнне Хрыстова і магчымасцю выказаць свае цёплыя пачуцці да сяброў.

### Званочак

На калядных паштоўках вельмі часта мастакі змяшчаюць званочкі. Званочак – таксама адна з уласцівасцяў свята. З іх дапамогай людзі вітаюць народжанага Хрыста, як некалі гэта рабілі пастухі ў Віфліеме. Таксама гукам званоў суправаджаюцца калядныя гімны і песні. А ў ноч перад святам званы ў цэрквах сімвалізуюць пачатак свята і перамогу над смерцю.

### Гімны

Калядныя гімны ў Еўропе прынята выконваць у суправаджэнні духавых інструментаў. Такое ўрачыстае гучанне напярэдадні Нараджэння Хрыстова поўніць вуліцы гарадоў Германіі. Усяго чатыры найбольш сусветна вядомыя гімны. Адразу прыгадваецца адразу знакамітая «Святая ноч», удалы пераклад на беларускую мову якой усё яшчэ не зроблены. Звычайна да традыцыйных спеваў дадаецца неверагодная колькасць мясцовых твораў, калядак, народных спеваў. У англійскім Уэльсе дагэтуль захавалася сярэдневечная традыцыя штогадовага фестываля калядных гімнаў. Харавыя калектывы з усё Англіі змагаюцца за тое, каб менавіта іх песня была выбраная «гімнам года».

### Свечкі

Таямнічае ззянне каляднай зоркі нарадзіла традыцыю святкаваць Божае Нараджэнне пры свечках. У час праўлення каралевы Вікторы ў Англіі гандляры штогод на каляды дарылі сваім сталым пакупнікам свечкі. Калядная свечка – сімвал перамогі святла над цемрай. У Беларусі ў даўнія часы агеньчыкі, акрамя прыгажосці, былі таксама і крыніцай самай вялікай небяспекі. Таму нашыя продкі трымалі звычайна ў сенцах вёдры з вадой, на выпадак пажару. Зараз у вітрынах крамаў, барах, і проста на вуліцах ззяе бясконцая колькасць каляровых лямпачак. Іх святло для нас цалкам бяспечнае. Вырабляць электрычныя гірлянды замест



свечак прыдумаў англійскі тэлефаніст Ральф Морыс. На той час ланцужкі электрычных лямпачак ужо выкарыстоўваліся ў тэлефонных размеркавальных тарчах, Морыс прыдумаў чапляць іх на галіны каляднай ёлкі.

### Яліна

Ёлка і калядныя падарункі завяршаюць карціну святкавання. Першыя неўпрыгожаныя яліны з'явіліся ў Германіі ў 8 ст. Напачатку Нараджэнне ў Германіі адзначалася пасадкай маладых ялінаў. У адной з нямецкіх крыніцаў, датаванай 1561 годам, зазначана, што на каляды ў доме можа стаяць не больш за адну ёлку. У 17 стагоддзі ставіць яліну ў хаце ўжо ператварылася ў традыцыю. Дрэва ўпрыгожвалася кветкамі, фігуркамі з каляровай паперы, яблыкамі, цукрам. Такі цяжар лясная прыгажуня вытрымлівала не заўсёды, таму з часам нямецкія гуты сталі вырабляць шкляныя цацкі, якія атрымліваліся даволі лёгкімі, каляровымі і з поспехам замянілі садавіну і цукеркі.

Першапачаткоўцам «елкавай» традыцыі лічыцца Святы Мікола. Гісторыкі кажуць, што гэта асоба не гістарычная, але яго аднолькава шануюць і ва ўсходняй, і ў заходней традыцыі хрысціянства. У савецкія часы вобраз святога перанёсся на Дзеда Мароза, да якога дадалася яшчэ і Снягурка. У Еўропе падарункі дзецям па ранейшаму прыносіць святы. У некаторых краінах місію Святога Міколы выконваюць іншыя персанажы: святыя, гномы, а ў Фінляндыі падарункі па дамах разносіць чалавек-невідзімка.

У ліку італьянскіх калядных традыцый абавязковым з'яўляецца «прысэпіо». У коміне, ці проста на драўлянай паліцы, выкладзенай мохам, італьянцы расстаўляюць дзеючых асобаў каляднай ночы: святое сямейства, жывёліны, пастухі, тры каралі. Асабліва гэтае дзеянне даспадобы дзецям, але не толькі. Дарослыя гэтай краіны шануюць традыцыі.

Дарэчы, ёсць меркаванне, што да з'яўлення каляднай ёлкі, галоўным упрыгожваннем лічылася калядная піраміда. Гэта драўлянае стварэнне абвешвалі раслінамі, а падарункі і цукеркі клалі на яе палічкі. Піраміды нагадваюць і штучныя вырабы, расстаўленыя ў гэтым годзе гарадскімі ўладамі на вуліцах і плошчах Мінска.

У скандынаўскіх краінах ёсць традыцыя ставіць ёлку для птушак. Самі жыхары гэтах краінаў кажуць, што ў гэтай традыцыі ўвасабляецца іх жаданне раздзяліць радасць свята з іншымі жывымі істотамі. Птушкам выносяць зерне, крошкі хлеба. Вяселле на вуліцы спрыяе святочнай атмасферы ў хаце.

### Дымаход

Асаблівую ролю ў Каляды адводзяць дымаходу. Калі ў Швецыі і Германіі Санта Клаўс звычайна грукае ў дзверы, то ў Англіі і Амерыцы ягоны візіт сакрэтны. Лічыцца што ён трапляе ў дом, каб пакінуць падарункі праз дымаход.

Для нашых продкаў біблейскія святы былі бадай што адзінымі і доўгачаканымі. Таму людзі імкнуліся працягнуць іх як мага далей. Нараджэнне замест аднаго дня святвалася 12, аж да самога Вадохрышча. На свята Трох Каралёў, якія прыйшлі пакланіцца немаўляці Ісусу, асаблівыя падарункі ў сем'ях рыхтаваліся дзецям. Гэтая традыцыя зрабіла вельмі папулярным гімн «Дванаццаць святочных дзянькоў», які з'явіўся ў 16 стагоддзі.

### Вігілія

Асобны пункт святкавання – меню святочнай вячэры 24 снежня. У традыцыі Заходняй Беларусі і ў некаторых суседніх краінах перадкалядная вячэра называецца Вігілія. Традыцыйна на стале ў гэты вечар посныя стравы, без мяса і нятлустыя. Усяго іх павінна быць прыгатавана дванаццаць: рыба, каша, суп, на салодкае — кісель, разынкі і арэхі. У традыцыйных сем'ях пад абрус на святочным стале падкладаюць сена альбо салому ў знак таго, як нарадзіўся Збаўца. Прынята таксама дзяліцца аплаткамі (прэсны хлеб) і жадаць блізкім усяго найлепшага.

Самае галоўнае, каб за гэтымі традыцыямі, святочнай атмасферай і падарункамі не губляўся сапраўдны сэнс самага светлага ў годзе свята.

Але традыцыя поснай вячэры не з'яўляецца абавязковай для ўсіх.

У Англіі ў святочны вечар ядуць індычку пад агрэставым соусам, слівовы пудынг і брэндзі.

У Францыі – вустрыцаў, паштэт з гусінай пячонкі, індычку ў белым віне, шампанскае і сыр.

Найбольш аскетычная вячэра ў Германіі: селядзец або карп.

Нідэрланды – трус альбо дзічына.

Бельгія – цялячая кілбаса з труфелямі, вэнджанае мяса, традыцыйны торт, віно.

Люксембург – кравяная кілбаса, яблыкі, віно.

Данія – качка альбо гусака з садавінай, рысавы пудынг з карыцай.

А нашы традыцыі не горшыя, бо прымаюць усё, апроч, можа, вустрыцаў.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**



# Вынікі конкурсу

# Беларусь –



У лістападзе рэдакцыя «Новага Часу» абвесціла сярод сваіх чытачоў конкурс «Беларусь у гістарычным кантэксце». Мы ўдзячныя ўсім чытачам, якія зацікавіліся і выказалі свае думкі, свае ацэнкі і погляды на гісторыю радзімы. Напярэдадні Калядаў рэдакцыйнае журы падсумавала адказы на прапанаваныя пытанні конкурснай анкеты. Надрукаваць тут цалкам чытацкія адказы мы не маем проста тэхнічнай магчымасці – для гэтага патрабуецца ёмістае кніжнае выданне. Таму рэдакцыя вырашыла апублікаваць вытрымкі з шэрагу допісаў, якія і прапануем вашай увазе. У спалучэнні з партрэтамі названых гістарычных асобаў, значных і памятных мясцін створана агульнымі сіламі цікавая карціна – «Вобраз Беларусі ў сэрцы сённяшніх яе грамадзян». Мы спецыяльна не падпісвае ілюстрацыі, бо, як паказалі лісты, яны агульнавядомыя, кожны з іх сімвалізуе пэўную значную эпоху ці падзею і паўстае ў памяці, калі чалавек думае пра гістарычны шлях радзімы.











Нагадаем, што было прапанавана адказаць на пяць пытанняў.

Самымі значнымі падзеямі ў гісторыі Беларусі былі названыя стварэнне Полацкага княства, утварэнне Вялікага княства Літоўскага, Грунвальдская бітва, абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, прыняцце хрысціянства. Сяргей Красоўскі, навучэнец мінскага ПТВ №221, сярод самых значных падзеяў, адначасна з паўстаннем Кастуся Каліноўскага, назваў таксама і адмену прыгоннага права, якая, на яго думку, «садзейнічала эканамічнаму развіццю», што, дарэчы, праўда.

Сярод падзеяў сучаснасці амаль аднагалосна чытачы назвалі абвяшчэнне незалежнасці і ўтварэнне суверэннай краіны Беларусь. «Безумоўна, краіны павінны падтрымліваць сваіх суседзяў, але ўсё ж такі добра развівацца і дзейнічаць як незалежная, дэмакратычная рэспубліка, мець свае законы і Канстытуцыю», – напісала вучаніца 11-га класа СШ № 4 г. Жодзіна Ганна Вараб'ёва. Яе адказ, а таксама пісьмовыя рэфераты па пытаннях конкурсу іншых вучня, гэтага актыўнага класа ў рэдакцыю даслала іх настаўніца беларускай мовы і літаратуры спадарыня Ірына Згрундо.



Асабліва цікава было пачытаць, каго з гістарычных асобаў сённяшнія старшакласнікі выбіраюць для сябе ў якасці ідэалу. Сімпатыі моладзі на баку суайчыннікаў. Большасць напісала пра ідэал асабіста для сябе, што вельмі лагічна ў маладым узросце. Прыкладам самаахвярнасці і патрыятызму з'яўляюцца Ефрасіння Полацкая, першадрукар Францыск Скарына, славутыя сыны бацькаўшчыны Тадэвуш Касцюшка і Кастусь Каліноўскі, Васіль Быкаў. У гэтым адказы дзяцей сугучныя з большасцю меркаванняў іншых нашых чытачоў. Алесь Бынькоў з Віцебска, ліст якога таксама адзначыла журы, у якасці беларускага славутага героя назваў вялікага князя Альгерда. Лявон Карповіч з вёскі Луна Мастоўскага раёна прывёў як прыклад мужнасці і самаахвярнасці змагарку і легендарную жанчыну Эмілію Плятэр. Капэрта, у якой прыйшоў ліст у рэдакцыю, утрымлівае (відаць, спецыяльна для супрацоўнікаў Белпошты) кароткія звесткі пра гераічны шлях беларускай гераіні.



Многія лічаць святой мясцінай урочышча Курапаты. Курапаты – гэта месца нашай жывой гісторыі. Падзеі, якія тут адбываліся, ўсё яшчэ падзяляюць грамадства, а значыць, асэнсаванне таго, што там адбылося, пакуль цалкам не здзейснілася. На другім месцы ўдзельнікі конкурсу называюць свае родныя мясціны, там, дзе прайшло дзяцінства, радзіму сваіх бацькі і маці. Тут амаль уся геаграфія нашай краіны – ад Браслава да Пінска, ад Мсціслаўля і да Пружанаў. Ёсць і паэтычныя фармулёўкі: «Наваградак – калыска, Вільня – душа, Мінск – будучыня,» – напісаў адзін з чытачоў.



Сапраўды, нашая краіна багатая на гістарычныя мясціны. Багатая таксама і на людзей, якія сваім жыццём праславілі Беларусь, паказалі, якое месца ў гісторыі ёй сапраўды належыць. «Любімае для мяне месца ў Беларусі – гэта Крэўскі замак, – піша Сяргей Макарэвіч з Вілейкі. - Тут можна сесці ля разбураных муроў, прыгадаць сабе старонкі з гісторыі, якія звязаныя з замкам. Але ўсе думкі злятаюць у небыццё, калі бачыш яго сучасны стан».

Нашым гонарам называе Мірскі замак Юры Мянькоў, настаўнік з вёскі Баравая Буда Кармянскага раёна Гомельскай вобласці. «Зараз уся беларуская грамадскасць павінна думаць, што мы пакінем нашым нашчадкам, ці ўбачаць нашыя ўнукі старажытныя замкі, вялізныя лясныя пушчы, зялёныя паркі, куды б хацелася прыязджаць на адпачынак,» – напісаў у сваім лісце сп. Мянькоў.

Мікалай Волчык з вёскі Зімовічы, Пружанскага раёна Брэстчыны напісаў, што любімым помнікам даўніны лічыць для сябе сядзібу Крашэўскіх у вёсцы Доўгае, што на Пружаншчыне. Зараз там засталіся падмурак дома і парк, але для спадара Мікалая, як ён сам піша, «любы кожны куточак гэтай сядзібы». Аб гісторыі роду Крашэўскіх краязнаўца збірае матэрыялы для друку ў мясцовых выданнях.





Таксама неаднаразова ў якасці нацыянальных святынь узгадваліся ў чытацкіх адказах Сафійскі сабор у Полацку, Наваградак, Гальшаны, храмы ў Сынкавічах і Маламажэйкаве, гарадзенская Каложа, Хатынь і Трасцянец. Узгадваліся таксама Белавежская пушча і возера Нарач – прыродныя цуды, якія «прыцягваюць да сябе сваёй велічнай прыгажосцю. Прыехаць туды, каб набрацца сіл удыхнуць пушчанскага водару і

# пазнакі ў гісторыі

азёрнай свежасці, каторы раз углядзецца ў прыроднае хараство і адчуць адзінства з зямлёй, якая цябе нарадзіла». Месца, дзе перапаўняюць такія пачуцці, можна смела назваць святыняй.

«Ёсць на Беларусі і мясціна, куды я імкнуся пры першай магчымасці. Гэта невялікая вёсачка на Вілейшчыне, размешчаная на беразе невялікай рэчкі са сцюдзёнай вадой, радзіма майго таты. Завецца яна Сцебаракі. Археолаг Эдвард Зайкоўскі лічыць, што назва вёскі мае балцкае паходжанне: у мове заходніх балтаў корань -stob- абазначае «камень». Недалёка ад нашай вёскі, у сасновым лесе, ёсць загадкавыя камяні. Загадкавасць ім надаюць неразгаданыя дасюль малюнкі, што на іх высечаны. Камянёў такіх пяць, здымак аднаго з іх я высылаю»

Сваёй малой радзімай і «любым помнікам даўніны» паэт Сяргей Патаранскі з Мінска назваў ву-



ліцы Слонімская і Прыгожая. У сваім змястоўным допісе ён выклаў шмат слушных прапановаў па ўшанаванні славутых людзей Беларусі ў сталіцы краіны, прыкладам, усталяванні помнікаў Міндоўгу і Вітаўту ў цэнтральных скверах Мінска, узвядзенні помніка Уладзіміру Караткевічу ды інш.

Сярод развагаў у адказе на пытанне «Што, на вашу думку, варта рабіць, каб Беларусь не загінула ва ўмовах глабалізацыі?»





найбольш выразна прагучалі наступныя меркаванні: захаванне і развіццё беларускай мовы і культуры, аднаўленне незалежнасці, нацыянальнай ідэі.

Асаблівую цікавасць выклікалі адказы школьнікаў з Жодзіна, пра якіх ужо ўзгадвалася вышэй. Развагі старшакласнікаў, якім належыць будучыня, сведчаць, што з іх растуць асобы з актыўнай жыццёвай пазіцыяй.

Максім Карэнцік: «Для таго, каб Беларусь не загінула ва ўмовах глабалізацыі, трэба, каб краіна захоўвала сваю незалежнасць, падтрымлівала эканамічныя і культурныя адносіны з іншымі краінамі свету, праводзіла рэформы на карысць сваіх грамадзян. Гэта можа зрабіць не толькі ўлада, але і кожны грамадзянін, сумленна выбіраючы на выбарах тых, каго ён лічыць патрэбным, актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці дзяржавы».

Вольга Зенькович: «Каб Беларусь не загінула, трэба аб'яднанне высілкаў не толькі ўлады, але і ўсіх грамадзян нашай краіны. Трэ-







ба стварыць такія ўмовы, каб кожны жыхар Беларусі адчуваў сябе вольным і забяспечаным. Асобае месца займае праблема пераадолення адсталасці ад іншых высокаразвітых краін, якая звязана з дэмаграфічнай, экалагічнай, сыравіннай і інш. праблемамі. Іх трэба вырашаць комплексна».

Дзяніс Лазюта: «Для мяне не сакрэт, што на нашай планеце ёсць куточкі, дзе ніхто не ведае, што ж гэта за краіна Беларусь, і дзе яна знаходзіцца. На маю думку, каб Беларусь не толькі не загінула ва



ўмовах глабалізацыі, але і каб наша краіна была вядомая ва ўсім свеце, трэба славіць Рэспубліку Беларусь перамогамі ў спартыўных спаборніцтвах, на прадметных міжнародных алімпіядах, навуковымі адкрыццямі, культурнай дзейнасцю. А самае галоўнае - ахова навакольнага асяроддзя.

Гэта ўздзел кожнага жыхара нашай краіны – і сталых, і падлеткаў, і дзяцей. Толькі ўсе разам мы здольныя ажыццявіць гэтыя мэты».

«Мова – галоўны пласт, падмурак нацыянальнай свядомасці. Не захаваем мову – страцім народ», – напісаў настаўнік з Гомельскай вобласці. Большасць удзельнікаў кон-



курсу выказаліся за тое, што не толькі ўлада павінна клапаціцца пра захаванне беларускай мовы, але таксама і кожны беларус у сваім штодзённым жыцці, у сям'і, на працы.

Маем надзею, што ўсе аўтары дасланых у рэдакцыю лістоў самі кіруюцца гэтымі прынцыпамі. Пра гэта, прынамсі, сведчыць добрая беларуская мова ўсіх удзельнікаў конкурсу. А калі мова жыве – жыве народ, жыве Беларусь.

*Ніжэй мы друкуем спіс пераможцаў нашага конкурсу:*





**сп. Алесь Бынькоў** *(Віцебск)*,
**сп. Мікалай Волчык** *(в. Зіновічы, Пружанскі раён)*,
**сп. Мікола Жук** *(Пружаны)*,
**сп. Ірына Згрундо** *(Жодзіна)*,
**сп. Ніна Каляда** *(Мінск)*,
**сп. Лявон Карповіч** *(в. Луна, Мастоўскі раён)*,
**сп. Сяргей Красоўскі** *(Мінск)*,
**сп. Мікола Лагодзіч-Касміна** *(Пінск)*,
**сп. Сяргей Макарэвіч** *(Вілейка)*,
**сп. Юры Мянькоў** *(в. Баравая Буда, Кармянскі раён)*,
**сп. Сяргей Патаранскі** *(Мінск)*,
**сп. Мікола Румянцаў** *(в. Бярэжцы, Жыткавіцкі раён)*,
**11 «Б» клас СШ № 4 Жодзіна,**
**з якога персанальна:**
**Вольга Зенькович,**
**Сяргей Жалнеровіч,**
**Ірына Драбянкова,**
**Дзяніс Лазюта,**
**Юля Басіч,**
**Алесь Немер,**
**Віктар Хадатковіч,**
**А. Каралёў,**
**Вадзім Чабан,**
**Ірына Навіцкая,**
**Вольга Абрамчук,**
**Іна Пасюціна,**
**Юры Фурс,**
**Ліяна Кулінчык,**
**Юля Сухадольская,**
**Сяргей Маруга,**
**Вольга Аўхімовіч,**
**Дзміцер Ліпніцкі,**
**Максім Крэнцік,**
**Наталля Сіянка,**
**Ганна Вераб`ёва.**

**Віншуем пераможцаў і ўсіх удзельнікаў конкурсу з Калядамі і зычым шчасця і ўдачы ў надыходзячым 2004 годзе!**

***Уручэнне прызоў на Стары Новы Год***

# Касцюшка ў Крынках!

*Гісторыя не менш цудоўная, чым калядная апавяданне, з асэнсаваннямі*

Беластоцкі паліцэйскі афіцэр, «пристав 2-го стана Сикорский», паведаміў гродзенскага губернатара Хрыстафора фон дэр Ковена, што да яго з мястэчка Крынкі Гродзенскага павета конна прыляцеў з даносам «от кринских евреев» тамтэйшы карчмар «Мовша Вольфович Герц», нібыта ў Крынках паявіўся «Костюк или Костюшко... участник мятежа 1831 года» і «похвалялся сделать поджог помещицкого двора при местечке Кринки», пры гэтым сам ён, Сікорскі, ужо выехаў да мястэчка разам «с командой».

Губернатар зацікавіўся. Што афіцэр Сікорскі не ведаў гісторыі і не чуў пра Тадэвуша Касцюшку ўвогуле, тым болей, не арыентаваўся, што Начальнік паўстання спіць вечным сном у зямлі Швейцарыі з 1817 года, губернатару было ясна – у Расійскай Імперыі таго часу гісторыі зусім не вывучалі, от сабе, троху пыхцеў Маскоўскі Універсітэт. Што часам усё яшчэ здараліся разбіткі таго «мятежа 1831 года», таксама не было дзівам. Не кожны дзень, што праўда, здаралася, каб яўрэй кінуў карчму і паляцеў канём блізкі свет, ратуючы ад падпалу панскі двор і бровар, якому сам жа быў вечна вінен. Але дыму без агню не бывае... На двары 1848 год, у суседняй Еўропе чарговая рэвалюцыя парыжскай прэвененцыі, а тут, на Крэсах, цар-бацюшка пакрыёмна рыхтуе 150-тысячны «особый корпус», каб адратаваць тых мяккацелых ліберальных манархаў з Еўропы ад якабінскай гільятыны.

І генерал фон дэр Ковен паслаў да Крынак свайго лепшага афіцэра, «гродненского земского исправника» даведацца – які гэта самазванец Ілжэкасцюшка раптам уваскрос у яго падуладных і падгродзенскіх Крынках.

За два дні Няфёдаў перавярнуў мястэчка, двор і наваколле, апытаў «тринадцать евреев богатых и бедных» і «двадцать одного крестианина» і арыштаваўтакі на дальнім лясным млыне Івана Касцюшку, здаравеннага дэбіла пры мяшках. Пасылалі па Касцюшку – то маеце Касцюшку. Але другі арыштаваны, нейкі Сцяпан Анісімовіч, на розум капітана Няфёдава, быў першы кандыдат у Сібір!

Што габрэі багатыя, што бедныя, а нават такія самыя алкаголікі – «крестиане» згодна сведчылі, што гэты Сцяпан, падвячоркам пасля царквы ў нядзелю,ываліўся на крынкаўскі брукаваны пляц з найлепшай карчмы Мошкі Герцовіча, учыніў самапальную сходку без згоды што пана фон Ліпхарта, што аканома Шыманскага і выклаў рэвалюцыйную праграму з чатырох пунктаў.

– Па-першае, «незадолго следует ожидать прибытия французов (!), а как придут – мы будем гулять».

– Па-другое, «не бойтесь никого из властей (!)... Польша здесь как была, так и будет».

– Па-трэцяе, «незадолго будем вешать всех евреев, но утешал (!) при этом бедных евреев, говоря им, тогда и вам лучше будет – шинки ведь сами (!) откроете».

– Па-чацвёртае (і самае важнае: а што потым, дзеля чаго ўсё гэта?!), «мы будем только унтерофицерами, но дети наши будут панами»!

Капітан Няфёдаў толькі позна вечарам дабраўся да Гродна, здаў абодвух арыштантаў у гарнізонную турму, што мясцілася тады ў казематах гэтак званага Старога Замку, а на той час казармы і канцылярыі – і адправіўся выспацца, каб са свежай галавой стаць на рапарт да губернатара. Капітан не ведаў, што заўтра генерал пачуе... два рапарты ў адной і той самай «справе Касцюшкі».

Бо гэта перапалоханы грузчык Іван Касцюшка скамянела прасядзеў усю дарогу ад Крынак на ланцугу на канвойным возе, а ноччу не спаў і камянеў далей. А вось рэвалюцыянер з народа, Сцяпан Анісімовіч, на звыклым падпітку і дарогу спакойна дрых, і ў турме на гнілой саломе да паўночы выспаўся – і пачаў разбірацца са стражнікам за кратамі, куды гэта яго чорт ізноў завалок... І калі нарэшце разабраўся, то падняў такі гвалт і лямант, што разбудзіў дзяжурнага афіцэра (!) і мала таго, што не атрымаў па мордзе, але далі Анісімовічу ўсё, каб напісаць губернатару (!), альбо пяро, паперу, атрамант і... «рускаго писаря», бо ён, Анісімовіч, не разумее па-руску.

І Анісімовіч напісаў усю праўду – і пра паклёп на яго хітрага карчмара Мошкі, які налівае ў доўг, а потым ганяе па начах у адробкі красці панскі лес, і пра аканома Шыманскага, які бярэ ў Мошкі завінавачаных і запітых рабоў, а Мошку плоціць крадзенай гарэлкай з бровара палкоўніка Аляксандра фон Ліпхарта, і пра самога палкоўніка, які побач з вінакурняй паставіў піваварню і цяпер без мыты прадае гарэлку ў піўных бочках і з піўнымі паперамі ў суседняе, багатае і аўтаномнае Каралеўства Польскае. Што да яго самога, Анісімовіча, то гэта падставіў і напаіў яго Мошка, змей зялёны, а сам ён заліты, як бэля, што гаварыў, таго не памятае, але гатовы давесці сваю адданасць цару-бацюшку, і хоць заўтра «в солдаты»... А не паспеў «русский писарь» скончыць пісаць, як цёмны і забіты прыгонны халоп з Крынак ... выхапіў у пісара з рукі казённае пяро і ліха распісаўся, кожную літарку відаць: **Stephan Anisimowicz**.

Ну, бо рэвалюцыянер з Крынак быў непісьменны толькі па-руску.



Калі губернатар у Гродне, генерал Хрыстафор Хрыстафоравіч фон дэр Ковен, убачыў праз трыццаць гадоў пасля памінак жывога Касцюшку, а да яго два рапарты ў адной справе, то зацікавіўся яшчэ болей – і напісаў свайму калегу і шэфу, генерал-губернатару ў Вільні, князю Багратыёну-меншаму. Справа аказалася вельмі далікатнай, бо той палкоўнік з Крынак, Аляксандр фон Ліпхарт, камандзір Наваладажскага пяхотнага палка, адначасова служыў пад віленскім штабам і быў ужо год, са сваім палком разам, пад той самай віленскай рэвізіяй.

Генерал Багратыён-меншы быў не горшы стратэг і тактык, чым яго вялікі продак, і распарадзіўся наступным чынам:

першае, дурня Касцюшку вярнуць да мяшкоў на падкрынкаўскі млын;

другое, народнага трыбуна Анісімовіча ні Сібіры, ні Ліпхарту не аддаваць, а запіхнуць яго, «с-сукина с-сына вплоть до особого распоряжения», скажам, у Пружанскі павет, ага; няхай год (толькі год !) памахае сякерай у Вялікай Пушчы, паваліць лес векавы на вечную цытадэль у Брэсце-над-Бугам ... «А засим «(Секретное) дело № 42 от 4 апреля 1848 года по рапорту Гродненского Земского Исправника о крестианине местечка Кринки Степане Анисимовиче, произносившем неблаговременный разговор о вольных воинах Костюшки» закрыть, закрыть с Богом!»

***

Цікавая і цёмная гэта справа, дзе гэта, як і калі, у якой такой «падпольнай школцы» халоп Сцяпан Анісімовіч мог навучыцца так спраўна чытаць і пісаць ... Пры тым, што вуніяцкая царква ў Крынках даўно перакручаная на праваслаўную і навукі там ніякой няма – зрэшты, як і ў касцёле. Пры тым, што ніякіх «добрых паноў» тут няма. Бо мала таго, што пан праваслаўны немец і камандзір палка «больше русский, чем сами русские», то яшчэ пані яго, Марыя фон Дзіваў, дачка сенатара і другога чалавека ў Міністэрстве замежных спраў Расіі etc, etc. Справа цікавая, але... доўгая - таму адкладзем яе на другі раз, а цяпер варта вярнуцца да народнай пранраммы дзеянняў Сцяпана Анісімовіча. (Чорт яго ведае толькі, адкуль у пушчанскіх Крынках, без чыгункі і тэлеграфа, толькі праз два месяцы (!) «простыя хамы» не проста ведалі пра Лютаўскую рэвалюцыю 1848 года ў Парыжы, але ўжо прыкідвалі (!), як і што яны будуць рабіць).

Па-першае, «рабункі мужыкоў», ці «мы будзем гуляць», можна пачынаць толькі разам з якім-небудзь чужым войскамвызваліцелем», напрыклад, «следует ожидать прибытия французов», з якімі і той легендарны Касцюшка вернецца, каторы нібыта «волю даў». Чаму толькі разам з «чужым войскам»? Бо - нехта ж мае напярэдадні рабункаў... пабіць ці пагнаць «сваё войска». Альбо – падругое, «Польша здесь как была, так и будет». Тут хаму не «залатая панская вольнасць» у галаве, не Польшча зусім і ... не новая ўлада – лепшая ці горшая.. Але – не было «старой улады», каб яна вярнулася, і каб «гуляць» беспакарана («не бойтесь никого из властей»). Каб знік той, хто над табой багацейшы («будем вешать евреев»). Ну, а паколькі тых «евреев» так шмат, то для пачатку (!) можна аддзяліць «богатых» ад «бедных» – тым болей, пры любой уладзе нехта мае стаяць у карчме, займацца броварам і балаголіць спірт ляснымі непраезнымі дарогамі. (Вось маем, заадно, класічны «пролетарский интернационализм» у адной кампаніі з «чарнасоценным пагромам»...)

А па-чацвёртае, аднак, самае важнае: асабісты сацыяльны аванс («мы будем унтерофицерами, но дети наши будут панами»). «Мы» гэта смялейшыя – як Сцяпан Анісімовіч і яго кампанія з карчмы і левай работы на Мошку і аканома. Астатнія халопы гэта... былі і будуць халопы – пры любым ладзе і няладзе. Бо нехта мае зямлю араць. Тут няма супярэчнасці паміж класавым інтарэсам і сацыяльным авансам. Бо той «інтарэс» падобны мары, мроі, бо «ўсім хочацца». Але... «не ўсе маюць». Бо сацыяльны аванс заўжды справа адзінак. Не той «рэвалюцыянер», хто «хоча» рабам «зямлі і волі» – а той, хто хоча ўлады сабе. Улады – няхай для пачатку ўлады падафіцэра. бо сэнс рэвалюцыі для рэвалюцыянераў у тым, каб змяніць, падвысіць свой уласны сацыяльны, бо цэлы клас «падвысіць статус» ніяк не можа, гэта лозунгі на сцягах, значаць яны tyle samo co nic. Параўнаем: «пралетарыям губляць адны ланцугі, але здабудуць яны цэлы свет» у Маркса і Энгельса. І – «мы будзем падафіцэрамі, але дзеці нашы будуць панамі» (чытай далей пра сябе: «як цяперашнія паны»!) у прыгоннага і непісьменнага па-руску, халопа Сцяпана Анісімовіча з падгродзенскіх Крынак. Адно і другое прагучала... ў тым самым 1848 годзе. Не класавая барацьба, сацыяльны аванс ёсць сіла руху любой рэвалюцыі (і не толькі рэвалюцыі!). І чаму гэта адзін «пралетарый з фабрыкі» на нешта здольны? Чым земляроб горшы за пралетарыя ў тым сацыяльным авансе менавіта?

Цікава, што Сцяпан Анісімовіч ажно ў 1848 годзе даў слушны і глыбокі гістарычны і геапалітычны прагноз для Беларусі і беларусаў на ўсё XX стагоддзе.

І так, пункт першы, чыё-небудзь «чужое войска» і «рабункі мужыкоў»...

Калі ласка – вайна 1914 года і рэвалюцыя 1917 года. З вядомымі наступствамі.

А пункт другі? Толькі паглядзець уважліва, бо не ў «Польшчы» там справа, паўтараю, а ў «старых панах, старой уладзе» ўвогуле... Што засталося ад «старой нашай польскай шляхты», на царскай службе і пад царскай аховай, пасля 1939–45 гадоў у Заходняй Беларусі?! «Дым Ацечаства...»

Не стала «паноў», адной даваеннай дамінуючай нацыі!

А трэці пункт, ад якога аж сорамна? Пасля 1917 года пачалі «вешать богатых евреев»; «бедные» нават самі былі дарваліся месцамі да ўлады, «шинки открыли»... А тут працяг Вялікай Вайны 1914–45 гадоў , гітлераўская акупацыя – і генацыд, Асвенцым і Халакост усім разам...

Вось і чацвёрты пункт. Пабраліся «нашы дзеці панамі» ў «мазураўска-машэраўскую эпоху» 1956–85 гадоў, а там чарговы раз – «чужое войска», КПСС завարушылася. І зашумеў чарговы сацыяльны асабісты аванс. Гэтакі наш modus albaruthendi...

Не маю месца разбіраць, як узаемадзейнічае той аванс на перамены веры, мовы, памяці. Але ўплывае без сумневу.

**Алесь ЧОБАТ**

## Каляды

# Бывай, 2003 год

**Валянціна Аверына, начальнік упраўлення сацыяльнай абароны Адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска:**

– На працягу года, як заўсёды, мы аказвалі адрасную сацыяльную дапамогу жыхарам раёна. У нас 6.000 малазабяспечаных грамадзян. У нас у раёне жывуць тры доўгажыхары - людзі, якія ўжо адзначылі стогадовы юбілей! Мы іх павіншуем з новым годам, зразумела, не з пустымі рукамі. Па традыцыі, 2 студзеня ладзім ранішнік для дзетак-інвалідаў. Іх у нас 110. Напрыканцы года прадпрыемствы нашага раёна ахвотна дапамагаюць у набыцці падарункаў, бо на шсё бюджэтных сродкаў не хапае. Мы стараемся ахінуць асаблівай увагай дзетак воінаў-афганцаў і тых, хто прыехаў у Мінск з чарнобыльскай зоны. Яшчэ ў нашым раёне ёсць інтэрнат, у якім большая частка дзетак - сіроты пры жывых бацьках, так званыя сацыяльныя сіроты. Хочацца спадзявацца, што лёс гэтых дзяцей будзе лепшым за лёс іх бацькоў.

**Дзмітрый Падзерын, старшы сяржант 8 роты палка патрульна-паставой службы ГУУС Мінгарвыканкама:**

– У гэтым годзе я разам са сваімі напарнікам Паўлам Пілецкім і ратвейлерам Блэкам затрымалі забойцаў... Самае жахлівае, што забойцы - тры маладыя жанчыны. Вось мы іх злавілі, а радасці - няма. Ведаеце, асноўная колькасць злачынстваў пачынаецца з выпіўкі. Калі параўноўваць з 2002 годам, то мне падаецца, менш людзі піць не сталі. П'яны чалавек - лёгкая здабыча для зламыснікаў: у такога лягчэй адабраць грошы, мабільны тэлефон. Добра яшчэ, калі ён адразу пасля нападу паведаміць аб гэтым у міліцыю, тады ў нас ёсць 70-80% шанцаў злавіць зламысніка і вярнуць грамадзяніну рэчы. Напярэдадні святаў мы пільна сочым, каб у рукі падлеткаў ды і дарослых не траплялі піратэхнічныя вырабы, продаж якіх у Мінску забаронены. У мінулым годзе 18 чалавек атрымалі раненні ад выбухаў петард.



**Ірына, менеджэр турыстычнай фірмы:**

– З кожным годам усё менш людзей, якія могуць дазволіць сабе набыць пуцёўку па сярэднім кошце. Паменшала і тых, хто набывае самыя дарагія пуцёўкі. У гэтым годзе, мне падалося, менш было і тых, хто набываў танныя пуцёўкі. Былі выпадкі, калі чалавек казаў: я магу патраціць вось столькі грошай, што прапануеце? А на столькі грошай і прапанаваць няма чаго. Такім чынам, я раблю выснову, што людзі сталі жыць горш.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

Алег ДАШКЕВІЧ

# Navahodni bliuz



Усё пачалося ў інтэрнацкім пакоі маіх прыяцеляў па інстытуце фізкультуры – Сашкі Серады ды Эрыка Сардарава, пасьля трэніроўкі 31 сьнежня 1983 года.

Мы з Эрыкам (поўнае імя барца-самбіста, нахічаванскага азэрбайджанца гучала наступным чынам – Эльбаі Абасалі-аглы Сардар'і) пераконвалі сьціплага і простага расейца Сашу адмовіцца ад паездкі дамоў, у Ліду, але аддаць перавагу маршруту да рэстарана «Журавінка», што ў васьмідзясятых, лічыўся месцам нефармальных узаемадачыненьняў нашых аднакашнікаў. Саша, на дзіва выяўляў стойкасьць духу і ўпарта зьбіраў рэчы ў дарогу.

У пакой зайшлі яшчэ двое аматараў «Журавінкі» – сьціплы й ветлівы піжон Лёша Курт і лёгкі, катэгорыя да 48 кг, курчавы бляндын Юзік Пуневіч альбо проста Пуня, якія разам са мной асвойвалі сакрэты трэнэрскай справы ў боксе.

– Санёк, – разглядаючы ў люстры свой акуратны прабор, заўважыў Лёша – там сёньня блюз будзе, дзевачкі.

– А што такое блюз, – спытаў нядужа дасьведчаны ў такіх пытаньнях Саша.

– Гэта Санёк, калі гасьне сьвятло, на сцэне ў срэбным пінжаку зьяўляецца музыкант з залатой трубой, і пачынае граць такую доўгую і шчымлівую мэлёдыю, што пад яе ты можаш заявіць правы на любую цыпу, што апынецца побач.

Тут і адкрылася Сашына таямніца. Саша закахаўся і прагнуў хутчэй дабрацца да прадмету свайго захапленьня ў горад Ліду.

- Яна такая файная, такая прыгожая, – твар прыяцеля зрабіўся прасьветлены і ўзьнёслы, які толькі можа быць у чалавека, што восем гадоў са сваіх дваццаці двух прагнуў паслаць суперніка ў накаўт.

– Ты хоць апішы яе, – выказаў я агульную рэакцыю на Сашыну экспрэсію.

– Ну яна такая, – Саша моршчыў лоб, падбіраючы патрэбны эпітэт для сваёй абраньніцы, і раптам выдахнуўшы, з пачуцьцём вымавіў, — такая каранастая.

– Ясна, – падкрэсьлена раўнадушна, праз непрацяглую паўзу, зазначыў Курт, – шуруй чувак.

«Ведь счастье это же птица, упустишь и не поймаешь», — працытаваў ён папулярную песьню эстонскай сьпявачкі Аннэ Вэскі. Астатнія душыліся, стрымваючы сьмех.

Праз нейкія паўгады мы з Эльбаі Аббасалі-аглы сьпявалі «сто лят» за вясельным сталом у мястэчку Ліда, дзе наш сябар браўся шлюбам з «каранастай прыгажуняй».

Відовішча было ўбойнае.

Віншуючы сына з «вялікай падзеяй у яго жыцьці», плакала наўзрыд Сашава маці, на плячы Эрыка захлёбвалася сьлязьмі сястра, гледзячы на родных людзей, нясьцерпна рымзаў сам жаніх. Побач з ім стаяла радасная і шчасьлівая, з кароткімі ручкамі й наожкамі, плотненькая й сутулаватая, вельмі падобная на мышынага цара з незабыўнага мульціка пра алавянага салдаціка, нявеста.

Але тое было праз паўгады, а




ў навагодні вечар напярэдадні 1984 года, казармавая прастора «Журавінкі» разьдзіралася ад хіта сэзону:

«Ах белы параход, гудка трывожны бас...» Вольных «пасадачных месцаў» у той час, у святочныя дні, не існавала ў прынцыпе. Народ расслабляўся.

Каля сцэны, паставіўшы на падлогу сумачкі, разам з падружкай, у яскравым танцы, салíравала мая школьная сымпатыя, зялёнавокая аднаклясьніца Наташка. Вечар для мяне набыў падвоены сэнс.

Лёшу Курта, адразу ж заслупіла трыццаціпяцігадовая львіца, Эрык сустрэў землякоў і толькі Шуня хадзіў непрыкаяны.

Мае запасьлівыя знаёмкі мелі пляшку, але ня мелі месца выпіць. Я дамовіўся са знаёмым барцом, пакуль іх кампанія была занята танцпраграмай, мы з барышнямі прыселі за барцоўскі столік.

Кульнуўшы раз, два, тры, Наташкіна знаёмая ня здолела супрацьстаяць прарэджанай і астылай, але ўсё ж такой блізкай закусцы, і, схапіўшы відэлец кагосьці з барцоўскай каманды, пачала ганяць па чужой талерцы раз за разам уцякаўшую ад яе лустку смажанай бульбы.

Было падобна на тое, нібыта падпітая курыца ніяк ня можа сфакусаваць прыцэл сваёй няўклюднай дзюбы. Але мне было не да гумару, да свайго месца вярталіся барцы.

Дагэтуль перад вачыма няўцямны, амаль спалоханы твар СупэрВовы, самага вялікага, далёка за 100 кг, чальца барцоўскай кампаніі. Вова аслупянеў ад карцінкі, што паўстала перад вачыма. Па ягонай талерцы, яго відэльцам, яго выпакутаваную вячэру спраўна зьнішчала нейкая зусім незнаёмая цыпа. Вырашыўшы, што памыліўся, СупэрВова пачаў шукаць свой столік наноў, але памылкі не было. Далей адбыўся наступны дыялёг:

– Я... тут крыху пад'ела.

– Нічога, нічога.

На гэтым месцы ў залі пагасла сьвятло, і на сцэну выйшаў музыкант з залатой трубой. Разам з гэтым згасла шалёная няёмкасьць, саступіўшы ў маім нутры месца, пачуцьцю больш прыемнаму. Я трымаў пад локаць сваю зялёнавокую аднаклясьніцу.

У навагоднюю ноч, мы дапівалі шампанскае, згадвалі школьныя часы і адчайна цалаваліся, седзячы на лесьвіцы ў Наташкіным пад'езьдзе, пакуль не ўбачылі абутыя ў тапкі ногі яе маці.

Калі ў першы дзень Новага году, я завітаў у гасьцініцу «Спорт», то засьпеў там толькі «хворага» Эрыка з азэрбайджанскім каньяком на стале.

Апярэдзіўшы маё пытаньне, Эрык прастагнаў:

– Курт у львіцы, Шуня ў ментуры, а я з землякамі.

– А Шуня за што?

– Ды звычайны, яго нумар, – моршчыўся Эрык

Курчавы й сьветлы, як Валодзя Ўльянаў у дзяцінстве, наш прыяцель не хацеў заставацца ў сьвяточны вечар адзін і, актыўна шукаючы сабе пары, нагледзеў вышэйшую за яго на паўгалавы эфэктную Сьнягурку. Але тая, як мае быць, была занятая Дзедам Марозам.

Шуня выяўляў упартасьць, рабіў Сьнягурцы знакі, скакаў вакол козьлікам. Пакуль не даскакаўся. Дзед Мароз прапанаваў яму «пагаварыць».

Далей усё пайшло па накатанаму, калега не аднойчы практыкаваў падобны фінт.

Я ны спусьціліся у вэстыбюль, сталі ля дзьвярэй з рыфлёнага чэскага шкла, дзе лёгкі, як пёрка, Шуня зазначыў у вэрбальнай спрэчцы нечуваную нахабнасьць, што да свайго піянэрскага выгляду. Вялікі Мароз зазлаваў і стрэліў малому нахабу зьверху ў лоб, Шуня звыкла нырнуў пад руку суперніку. Сьледам пачуўся грукат разьбітага чэскага шкла. Звычайна ў такіх выпадках, з анёльскім тварам, Шуня сыходзіў убок, а апанэнта забіраў дзяжурны нарад. Але вечар быў навагодні, побач стаяла Сьнягурка і наш сябра, не ўтрымаўшыся, падчапіў Дзеда Мароза пад белую бараду.

У пастарунак забралі і Шуню, і Дзеда Мароза, сьледам за якім у варанок ускочыла Сьнягурка.

Раптам адчыніліся дзьверы і ў пакой зайшоў са зьлёгку памятым выглядам Лёша Курт.

Выслухаўшы нашы аповяды і стомлена зірнуўшы ў люстэрка, Лёша мэлянхалічна зазначыў:

– Знаеце, пацаны, у навагоднюю ноч я мог бы памерці самай лютай сьмерцю. У лепшым выпадку, быў бы застрэлены.

Пры гэтых словах нават ніякі Эрык адарваў галаву ад падушкі. Нашы з ім твары напружана чакалі працягу.

Увесь вечар у «Журавінцы» Курт знаходзіўся пад надзейнай апекай. Жонка маёра Ўзброеных Сілаў СССР з новага менскага мікрараёну Ўручча, пакуль муж за нейкую правіну меўся дзяжурыць на Новы год, вырашыла стварыць сабе сапраўднае сьвята.

Уручанская львіца карміла, паіла і вабна ўсьміхалася свайму маладому, высокаму і элеганцкаму кавалеру. Кавалер у адказ усьміхаўся загадкава мелянхалічна, і з лёгкай настойлівасьцю пагладжваў крэпкія формы свае партнэршы.

У таксі Лёша сядаў ужо на добрым падпітку. Маёрская жонка была цудадзейна гасьціннай, Лёша ўсё піў, еў, мэлянхалічна ўсьміхаўся і жарка цалаваў ільвіцу ў вусны. Але, як толькі яго галава кранулася каханкавай падушкі, Лёша заснуў мёртвым сном.

Прачнуўся Курт толькі каля палудня, са зьвярыным апэтытам. Уручанская львіца з заплаканым тварам уціснулася ў фатэль і як заведзеная прамаўляла адну фразу: што я цяпер буду рабіць.

– Што тут было, – глуха спытаў Аляксей.

Спачатку львіца не зразумела, што Курт банальна заснуў (мэлянхалічная ўсьмешка не сыходзіла з Лёшынага твару і ў сьне), яна ласкала яго цела ўсімі магчымымі ласкамі. Калі ж Куртаў сон стаў для яе яўю, каханка стала трэсьці яго ў гневе, а пасьля й біць.

Лёша не рэагаваў, толькі скруціўся калачыкам і адвярнуўся да сьцяны. Урэшце львіца стамілася і заснула сама.

Пад ранак, калі адведзены ёй час для прыгодаў скончаўся, яна, безвынікова спрабуючы разбудзіць свайго няўклюднага кавалера, цягала яго за нос, за валасы, аблівала халоднай вадой.

У дзевяць прыйшоў з дзяжурства маёр. Паглядзеўшы на бедлам, што панаваў у яго хаце, маёр зайшоў на кухню, дзе непрыбранымі стаялі яствы й напоі, разабраў, пачысьціў і сабраў свой «макараў», затым з рыльца засадзіў паўпляшкі каньяку і, прамовіўшы адну фразу:

– Новы год, курва, ня будзем псаваць сьвята, – уклаў пісталет у кабуру і ляснуў дзьвярыма.

Выслухаўшы аповяд маёршы, Курт зайшоў на кухню, пасьнедаў тым, што засталося, і, памяўшыся, вымавіў патускнелай львіцы:

– Ну, я пайшоў. Даруй, калі можаш.

– Гад, ты Аляксей, – заўважыў я пасьля ўсяго пачутага.

– Што зробіш, гэта ж... Новы год, – задуменна зазначыў Курт, і мы ўтрох грымнулі сьмехам.

Скончалі мы першы дзень Новага году каньяком азэрбайджанскіх таварышаў. Пад вечар зьявіўся Шуня з квітанцыяй на аплату штрафу, але з вясёлым настроем.

– Новы год у пастарунку, – сьмяяўся ён, – не самы горшы Новы год. А менты ў Новы год, чулыя й прыветныя людзі.

Гэта быў апошні год эпохі застою. Яшчэ не патануў у Чорным моры сымбаль тае эпохі белы параход «Адмірал Нахімаў», не пакаціла па краіне «перестройка», не ўводзілі сухіх законаў. Яшчэ мы былі маладымі.

Сёньня я ня шмат ведаю пра тых, з кім сустракаў апошні год свайго юнацтва.

Наш прыяцель Саша Серада, нядоўга цешыўся шчасьцем каханьня са сваім «мышыным царом». Разьвёўшыся, ён зьехаў з Ліды, і яго сьляды згубіліся недзе на Ўкраіне.

Мая зялёнавокая аднаклясьніца Наташка мае цудоўнага сьмешнага сынка і невылечна раўнівага мужа.

Эльбаі Аббасалі-аглы Сардараў вярнуўся на радзіму ў Нахічэвань, неўзабаве перад тым, як пачалася армяна-азэрбайджанская вайна.

Шуня, нібыта, ганяе аўтамабілі з Нямеччыны.

З Лёшай Куртам мы зрэдку бачымся на баксэрскіх спаборніцтвах. З гальштукам-бабачкай і нязьменнай стомленай усьмешкай на твары, ён судзіць баксэрскія двубоі.

Калі ў мэлянхалічным настроі, я спускаюся, мінаючы былы рэстаран «Журавінка», да Купалаўскага сквэру альбо падымаюся ў Верхні горад, мне згадваецца музыкант з залатой трубой, які грае доўгую і шчымлівую мэлёдыю навагодняга блюзу. Блюзу разьвітаньня з юнацтвам.

Умбэрта ЭКА

# Вечны фашызм

«Вечны фашызм» – даклад знакамітага італьянскага пісьменніка і вучонага Умбэрта Эка на сімпозіуме, што праводзіўся італьянскім і французскім аддзяленнямі Калумбійскага універсітэта (Нью-Йорк) 25 красавіка 1995 г., да юбілею вызвалення Еўропы. Аднак мінулы час (амаль дзесяцігоддзе) не састарыў у ім ніводнага слова. Нібыта напісан сёння пра сённяшнія пагрозы . Друкуецца ў скароце.



У 1942-м, калі мне было 10 гадоў, я заваяваў першае месца на алімпіядзе «Ludi Juveniles», што праводзілася для італьянскіх школьнікаў-фашыстаў (то бок для ўсіх італьянскіх школьнікаў). З рытарычнай віртуознасцю я развіваў тэму «Ці павінны мы памерці за славу Мусаліні і за неўміручую славу Італіі?» На гэтае пытанне я даў станоўчы адказ. Я быў разумны хлопчык.

Потым, у 1943 годзе, мне адкрыўся сэнс слова «свабода». На заканчэнне гэтага нарысу я распавем, як яно было. «Свабода» тады яшчэ не азначала «вызвалення».

Калі я быў падлеткам, два гады вакол былі эсэсаўцы, фашысты і партызаны, усе палілі адзін у аднаго, а я вучыўся ўхіляцца ад стрэлаў. Карысны навык.

У красавіку 1945 году партызаны ўзялі Мілан. Праз два дні яны занялі і нашае мястэчка. От была радасць. На цэнтральнай плошчы тоўпіліся местачкоўцы, спявалі, размахвалі сцягамі. Гукалі Міма, камандзіра партызанскага атраду. Міма, у мінулым капітан карабінераў, перайшоў на бок Бадольё (Пьетра Бадольё – адзін з арганізатараў звяржэння Мусаліні, потым стаў прэм'ер-міністрам Італіі), і ў адным з першых баёў яму адарвала нагу. Ён выбраўся на балкон муніцыпалітэту на мыліцах, бледны. Рукой зрабіў знак натоўпу, каб змоўклі. Я, як і ўсе, чакаў урачыстае прамовы, усё маё дзяцінства прайшло ў атмасферы маштабных гістарычных прамоваў Мусаліні, у школе мы вучылі на памяць самыя пранікнёныя пасажы. Але стаяла ціша. Міма гаварыў хрыпата, амаль не было чуваць: «Грамадзяне, сябры. Пасля мноства выпрабаванняў... мы тут. Вечная слава палеглым за свабоду». Усё. Ён завярнуўся і пайшоў. Натоўп галёкаў, партызаны трэслі зброяй, палілі ў паветра. Мы, хлопцы, кінуліся падбіраць гільзы – каштоўныя калекцыйныя экспанаты. У той дзень я ўсвядоміў, што свабода слова азначае і свабоду ад рыторыкі.

[...] У траўні нам сказалі, што вайна скончылася. Мір падаўся мне нечым вельмі дзіўным. Мяне вучылі, што няспынная вайна – нармальны лад жыцця для маладога італьянца. У наступныя месяцы выявілася таксама, што Супраціў – праява не толькі наша вясковая, але і агульнаеўрапейская.

У Італіі сёй-той сёння задаецца пытаннем, ці адыграў Супраціў рэальную ролю ў вайне. Для майго пакалення гэтае пытанне не мае сэнсу. Мы адразу адчулі маральную і псіхалагічную ролю Супраціву. Вось што надавала нам годнасці: ведаць, што мы, жыхары Еўропы, не чакалі вызвалення склаўшы рукі. [...]

У Італіі чуваць выказванні, што Супраціў у Еўропе – выдумка камуністаў. Няма чаго спрачацца, камуністы сапраўды выкарысталі Супраціў як сваю ўласнасць, балазе адыгралі ў ім цэнтральную ролю. Але я памятаю партызанаў у шыйных хустках самых розных колераў.

Я праводзіў цэлыя ночы, прыпаўшы да радыёпрыймача – задраеныя аканіцы, каменданцкая гадзіна, зацямненне, адзінае святло – арэол вакол радыё – і слухаў паведамленні «Радыё Лондан» для партызанаў. Весткі былі туманныя і паэтычныя («Сонца ўзыходзіць зноў», «Ружы ў квецені»). Пераважна гэта была «інфармацыя для Франкі». Аднекуль я дазнаўся, што Франкі – камандзір найбуйнейшага падполля ў Паўночнай Італіі і чалавек легендарнае мужнасці. Франкі быў маім героем. Гэты Франкі (сапраўднае імя – Эдгарда Соньё) быў манархістам настолькі антыкамуністычнай арыентацыі, што па вайне далучыўся да праваэкстрэмісцкае групоўкі і трапіў пад суд па падазрэнні ў падрыхтоўцы рэакцыйнага антыдзяржаўнага перавароту. Што гэта мяняе? Ён застаецца арыенцірам маіх дзіцячых гадоў. Вызваленне – адно для людзей самых розных колераў.

Цяпер у нас прынята казаць, што вайна за вызваленне Італіі прывяла да трагічнага расколу нацыі і што неабходна нацыянальнае прымірэнне. Успамін пра жахлівы час трэба выцесніць.

Але выцясненне – крыніца неўрозаў. Калі прымірыцца – значыць праявіць разуменне, павагу да тых, хто з чыстым сэрцам вёў сваю вайну, то дараваць – не значыць забыць. Дапускаю, што Эйхман быў шчыра адданы сваёй місіі. Але мы ж не кажам Эйхману: «Вяртайся і працягвай у тым жа духу». Мы павінны памятаць, што было, і ўрачыста заявіць: паўтарыць гэта яны не павінны.

Але хто гэтыя «яны»?

Калі разумець пад «імі» таталітарныя ўрады, што распараджаліся Еўропай перад Другой сусветнай вайной, дык можна спаць спакойна: у новых гістарычных дэкарацыях яны ў сваім ранейшым выглядзе не адродзяцца. У склад італьянскага фашызму (Мусаліні) уваходзілі: культ харызматычнага правадыра, карпаратыўнасць, утапічная ідэя пра лёсаноснасць Рыму, імперыялістычная воля да заваёвы новых земляў, надсадны нацыяналізм, выстройванне краіны ў калону па двое, адзяванне ўсіх у чорныя кашулі, адмаўленне парламенцкай дэмакратыі, антысемітызм. У такім разе цяперашні Нацыянальны альянс, які нарадзіўся з рэштак Італьянскага сацыяльнага руху, – гэта партыя хоць і безумоўна правая, але яна не мае сувязі з нашым ранейшым фашызмам.

І хоць я вельмі занепакоены фашыстоўскімі рухамі, што паўстаюць па ўсёй Еўропе і, у прыватнасці, у Расіі, я – з тае ж прычыны – не думаю, што менавіта нямецкі фашызм у сваёй першапачатковай форме можа зноўку выступіць як ідэалогія, што апаноўвае цэлыя народы.

Ці існуе ў цяперашні час тая здань, якая блукае па Еўропе, не кажучы пра іншыя часткі свету?

Іянэска выслзвіўся так: «Важныя толькі словы, усё астатняе – балбатня». Лінгвістычныя звычкі часта аказваюцца галоўнымі сімптомамі невымоўных пачуццяў.

Таму дазвольце задаць пытанне: чаму не толькі італьянскі Супраціў, але і ўся Другая сусветная вайна па ўсім свеце фармулюецца як бітва супроць фашызму? Фашызм, агулам беручы, павінен асацыявацца з Італіяй. [...]

Рэч у тым, што «Майн Кампф» – маніфэст цэльнае палітычнае праграмы. Нямецкі фашызм (нацызм) уключаў у сябе расавую і арыйскую тэорыі, выразнае ўяўленне пра звыраднелае мастацтва, філасофію дзяржаўнасці і культ звышчалавека. Ён меў выразную антыхрысціянскую і неапаганскую афарбоўку. Гэтаксама сталінскі дыямат быў адкрыта матэрыялістычны і атэістычны. Рэжымы, што падпарадкоўваюць усе асабістыя праявы дзяржаве і дзяржаўнай ідэалогіі, мы завем таталітарнымі. Такі характар мелі і нямецкі фашызм, і сталінізм.

Італьянскі ж фашызм, безумоўна, уяўляў сабою дыктатарскі рэжым, але цалкам таталітарнага характару ён не меў, Прычына гэтага – не нейкая там ягоная адмысловая мяккасць, а недастатковая філасофская база. Насуперак агульнапрынятаму ўяўленню, у італьянскага фашызму не было ўласнае філасофіі. Артыкул пра фашызм, падпісаны «Мусаліні» ў італьянскай «Энцыклапедыі Трэкані», быў калі не напісаны, то натхнёны філосафам Джавані Джэнтыле, але ў ім адбівалася познегегельянскае ўяўленне пра «этычную і абсалютную дзяржаву». Аднак за панавання Мусаліні такая дзяржава рэалізавана не была. Мусаліні не меў ніякае філасофіі: у яго была толькі рыторыка.

Італьянскі фашызм, бясспрэчна, быў першай правай дыктатурай, што заўладала цэлай еўрапейскай краінай, і таму наступныя аналагічныя рухі бачылі ў мусалініеўскім рэжыме свой супольны архетып. Італьянскі фашызм першым з усіх распрацаваў ваенную літургію, фальклор, нават моду на адзенне – нашмат больш уплывовую, чым любыя Бенетоны, Армані і Вэрсачэ. Толькі следам за італьянскім фашызмам – у трыццатыя гады – фашыстоўскія рухі з'явіліся ў Англіі (Мослі), Літве, Эстоніі, Латвіі, Польшчы, Венгрыі, Румыніі, Балгарыі, Грэцыі, Югаславіі, Іспаніі, Партугаліі, Нарвегіі і нават у Паўднёвай Амерыцы – і, вядома, у Германіі. І менавіта італьянскі фашызм стварыў у шмат каго з ліберальных еўрапейскіх лідэраў перакананне, нібыта гэтая ўлада праводзіць цікавыя сацыяльныя рэформы і здатная стварыць памяркоўна-рэвалюцыйную альтэрнатыву камуністычнай пагрозе.

У Італіі фашыстоўская партыя нарадзілася, выхваляючы свой новы рэвалюцыйны лад, але фінансавалася яна самымі кансерватыўнымі землеўладальнікамі, якія спадзяваліся на контррэвалюцыю. Італьянскі фашызм у сваім зародку быў рэспубліканскім, але потым дваццаць гадоў запар пракламаваў вернасць каралеўскай фаміліі, даючы магчымасць дучэ крочыць праз жыццё пад ручку з каралём, якому прапаноўваўся нават тытул імператара. Калі ж у 1943 годзе кароль звольніў Мусаліні з пасады, партыя праз два месяцы адрадзілася з дапамогаю немцаў пад сцягам «сацыяльнае» рэспублікі, пад ужо знаёмую рэвалюцыйную музыку, але ўзбагачаную цяпер ледзь не якабінскімі абертонамі.

Існавала толькі адна архітэктура нямецкага фашызму і толькі адно нямецка-фашыстоўскае мастацтва. Калі б архітэктарам нямецкага фашызму стаў Альберт Шпеер, не засталося б месца Місу ван дэр Роэ. Гэтаксама ж і пры Сталіну: калі б меў рацыю Ламарк, не засталося б месца Дарвіну. Наадварот, у Італіі архітэктары, безумоўна, мыслілі сябе як фашысты, аднак поруч з псеўдакалізеямі праектавалі і наватарскія будынкі, натхнёныя мадэрнрацыяналізмам Гропіюса.

Італьянскі фашызм не ведаў свайго Жданава. У Італіі існавалі дзве важныя мастацкія прэміі. Па-першае, прэмія «Крэмона» - пад эгідай фашыста Фарыначы, невука і фанатыка, які стаяў за прапагандысцкае мастацтва (памятаю станковы жывапіс «Ля радыёпрыймача. Слухаючы выступ Дучэ» і «Станы свядомасці, створаныя фашызмам»). Па-другое, прэмія «Бэргама», якую фундаваў адукаваны і збольшага талерантны фашыст Джузэпэ Ботаі. Ён быў адначасна за мастацтва дзеля мастацтва і за наватарскі авангардызм, той самы, што ў Нямеччыне пераследаваўся як праява звыраднеласці і тайнага камунізму, бо адрозніваўся ад нібелунгавага кічу, а дазваляўся толькі ён і больш нічога.

Шмат хто з партызанаў, прадстаўнікоў левай інтэлігенцыі выспелі ў ячэйках ГУФ (фашыстоўскай арганізацыі універсітэцкіх студэнтаў), якая задумвалася як калыска новае фашыстоўскае культуры. Але гэтыя ячэйкі скла ліся ў нейкі інтэлектуальны кацёл, дзе кіпелі ідэі і ніколі не было сапраўднага ідэалагічнага кантролю; не таму, што партыйцы адрозніваліся адмысловай талерантнасцю, а таму, што ім, як правіла, не хапала інтэлектуальнага ўзроўню, каб кантраляваць студэнтаў.

Цягам усяго таго дваццацігоддзя паэзія «герметыкаў» станавіла процівагу пампезнаму стылю істэблішменту. Герметыкам было дазволена выказваць літаратурны пратэст, не пакідаючы вежы з слановае косці. Настрой герметыкаў станавіў поўную процілегласць фашыстоўскаму культу аптымізму і гераізму. Фашыстоўскі істэблішмент цярпеў гэтую відавочную, хоць і сацыяльна няўлоўную, супярэчнасць, бо проста не аддаваў увагі іхнім туманным словам.

Гэта не азначае, што італьянскі фашызм вызначаўся талерантнасцю. Грамшы праседзеў у турме да самага скону, Матэоці знішчылі, братоў Раселі знішчылі, свабоду друку скасавалі, прафсаюзы разагналі, палітычных дысідэнтаў выслалі на дальнія астравы, заканадаўчая ўладаператварылася ў чыстую фікцыю, а выканаўчая (якая кантралявала і судаводства, і масавыя камунікацыі) самавольна выдавала законы, сярод якіх, у прыватнасці, быў і закон пра чысціню расы – фармальная падтрымка Італіяй генацыду яўрэяў.

Супярэчлівы малюнак, які я тут падаю,



Беніта Мусаліні – дучэ, правадыр італьянскіх чорнакашульнікаў

# Вечны фашызм




сведчыць не пра талерантнасць, а пра вялікае нядбальства, як палітычнае, так і ідэалагічнае. Прычым гэта было «строгае нядбальства», у бязладдзі была свая сістэма. Хай сабе фашызм не меў філасофскага стрыжня, але з эмацыйнага пункту гледжання ён быў моцна звязаны з пэўнымі архетыпамі.

Так мы падышлі да другой часткі гутаркі. Нямецкі нацызм быў унікальны. Мы не можам назваць нацызмам гіперкаталіцкі фалангізм Франка, бо нацызм адзначаецца глыбінным паганствам, політэізмам і антыхрысціянствам. А вось з тэрмінам «фашызм», наадварот, можна гуляць па-рознаму.

Тэрмін «фашызм» ужываецца паўсюдна, бо нават калі пазбавіць італьянскі фашыстоўскі рэжым аднаго ці некалькіх аспектаў, ён усё роўна будзе апазнавацца як фашыстоўскі. Выдаліўшы з італьянскага фашызму імперыялізм, атрымліваем Франка або Салазара. Выдаляем каланіялізм – выходзіць балканскі фашызм. Дадаем шаленства на кельцкай міфалогіі і кульце Грааля (абсалютна чужое італьянскаму фашызму), і перад намі адзін з найбольш шанаваных фашыстоўскіх гуру – Юліюс Эвола.

Каб пераадолець гэты разброд, на мой розум, трэба вылучыць спіс тыповых характарыстык Вечнага Фашызму (ур-фашызму); агулам кажучы, дастаткова наяўнасці хоць бы аднае з іх, каб вакол яе пачала кандэнсавацца фашыстоўская туманнасць.

**1. Першая характарыстыка ур-фашызму – культ традыцыі.**

Традыцыяналізм старэйшы за фашызм. Ён выступае дамінантай контррэвалюцыйнае каталіцкае думкі пасля Французскае рэвалюцыі, але зарадзіўся ён у позні эліністычны перыяд як рэакцыя на рацыяналізм класічнае Грэцыі.

У міжземнаморскім басейне народы розных рэлігіяў (усе яны з роўнай талерантнасцю дапускаліся ў рымскі Пантэон) шукалі нейкага адкрыцця, яўленага на золку гісторыі чалавецтва. Гэтае адкрыццё спакон веку тоілася пад покрывам забытых моваў. Яно было даверана егіпецкім іерогліфам, кельцкім рунам, сакральным сувоям малавядомых азіяцкіх рэлігіяў.

Гэтая новая культура немінуча аказвалася сінкрэтычнаю. Сінкрэтызм – гэта не проста, як зазначаюць слоўнікі, «спалучэнне розных формаў рэлігійнае веры і практыкі». Тут аснова спалучальнасці – перадусім пагарда да супярэчнасцяў. Зыходзячы з падобнае логікі, ва ўсіх першародных вестках ёсць каліва мудрасці, а калі яны супярэчаць адна адной ці ўвогуле не сумяшчаюцца міжсобку, гэта не мае значэння, бо ў алегарычным сэнсе яны ўсё роўна нагадваюць пра нейкую спрадвечную праўду.

Нямецка-фашыстоўскі гнозіс жывіўся традыцыяналісцкімі, сінкрэтысцкімі, акультнымі складнікамі. Найважнейшая тэарэтычная крыніца новых італьянскіх правых, Юліюс Эвола, змяшаў Грааль з «Пратаколамі Сіёнскіх мудрацоў», алхімію з Святою Рымскай імперыяй.

Парыйцеся ў кнігарні на стэлажах пад таблічкай «Н'ю-Эйдж». Вы ўбачыце ў кучы містычнае лухты нават святога Аўгустына, які, наколькі мне вядома, фашыстам не быў. Але калі валяць у адну кучу Аўгустына і Стоўнхэндж – гэта ўжо сімптом ур-фашызму.

**2. Традыцыяналізм немінуча вядзе да непрыняцця мадэрнізму.**

Як італьянскія фашысты, так і нямецкія нацысты пакланяліся тэхніцы, тым часам як традыцыяналісцкія мысляры звычайна яе ганілі, бачачы ў ёй адмаўленне традыцыйных духоўных каштоўнасцяў. Але хоць нацызм і ганарыўся сваімі індустрыяльнымі дасягненнямі, у глыбіні ягонае ідэалогіі панавала тэорыя «Крыві і глебы». Адмова сучаснага свету ішла пад маркаю адмаўлення капіталістычнага ладу жыцця, але перадусім – адмаўлення духу 1789 году (а таксама, натуральна, 1776-га), духу Асветніцтва. Век Рацыяналізму бачыцца як пачатак сучаснае распусты. У гэтым сэнсе ур-фашызм льга назваць ірацыяналізмам.

**3. Ірацыяналізм моцна павязаны з культам дзейнасці дзеля самой дзейнасці.**

Дзеянне прыгожае само па сабе. Таму яно можа здзяйсняцца па-за рэфлексіяй і без яе. Думаць – справа не мужная. На культуру пазіраюць з падозраннем, як на патэнцыйны носьбіт крытычнага стаўлення. Тут усё: і выказванне Гебельса «Калі я чую слова «культура», я хапаюся за пісталет», і выразы накшталт інтэлігентаў-размазні, яйкагаловых, радыкал-снабізму і універсітэтаў як расаднікаў камуністычнае заразы. Падозрывасць да інтэлектуальнага свету заўжды сведчыць пра прысутнасць ур-фашызму. Афіцыйныя фашыстоўскія мысляры нападалі на сучасную ім культуру і ліберальную інтэлігенцыю ў асноўным за адыход ад векавечных каштоўнасцяў.

**4. Ніякая форма сінкрэтызму не можа вынесці крытыкі.**

У сучаснай культуры навуковая супольнасць шануе нязгоду як аснову развіцця навукі. У вачах ур-фашызму нязгода гэта здрада.

**5. Нязгода – гэта яшчэ і знак разнастайнасці.**

Ур-фашызм расце і шукае кансэнсусаў, эксплуатуючы прыродную боязь іншароднага. Найпершыя лозунгі фашызоідных рухаў ад пачатку скіраваныя супраць іншародцаў. Ур-фашызм, такім чынам, паводле вызначэння замяшаны на расізме.

**6. Ур-фашызм родзіцца з індывідуальнае або сацыяльнае фрустрацыі.**

Таму ўсе гістарычныя фашызмы грунтаваліся на фруструраваных сярэдніх класах, якія пацярпелі ад нейкага эканамічнага або палітычнага крызісу і баяцца ціску нізоў. У наш час, калі ранейшыя «пралетары» ператвараюцца ў дробную буржуазію, а люмпен з палітычнага жыцця самаўстараняецца, фашызм знойдзе ў гэтай новай бальшыні выдатную аўдыторыю.

**7. Тым, каму нестае яснае сацыяльнае тоеснасці, ур-фашызм кажа, што адзіны іхні прывілей – факт нараджэння ў пэўнай краіне.**

Так куецца нацыяналізм. Да таго ж адзінае, што можа згуртаваць нацыю, – гэта ворагі. Таму ў аснове ур-фашыстоўскай псіхалогіі - апантанасць ідэяй змовы, па магчымасці міжнароднае. Чальцы руху павінны пачувацца ў аблозе. Найлепшы спосаб засяродзіць аўдыторыю на змове – скарыстаць спружыны ксенафобіі.

**8. Чальцы руху павінны пачувацца абражанымі тым, што ворагі выстаўляюць напаказ багацце, бравіруюць сілай.**

Калі я быў малы, мне ўводзілі ў вушы, што англічане – «нацыя, якая есць пяць разоў на дзень». То бок яны ядуць часцей, чым бедныя, але сумленныя італьянцы. А габрэі – багатыя, да таго ж яны спрыяюць сваім праз тайную сетку ўзаемадапамогі. Гэта з аднаго боку; у той жа час чальцы руху перакананыя, што патрапяць адужаць любога ворага. Такім парадкам рыторыка няспынна мяняе свой фокус, і вораг малюецца адначасна і як занадта дужы, і як занадта слабы. Таму фашыстоўскія ўрады асуджаныя заўсёды прайграваць войны: яны няздатныя аб'ектыўна ацэньваць баяздольнасць праціўніка.

**9. Для ур-фашызму няма барацьбы за жыццё, а жыццё існуе дзеля барацьбы.**

Калі так, пацыфізм раўназначны братанню з ворагам. Пацыфізм ганебны, бо жыццё ёсць вечнае змаганне. У той жа час прысутнічае і комплекс Страшнага суду. Паколькі вораг павінен быць – і будзе – знішчаны, значыць, адбудзецца апошні бой, у выніку якога дадзены рух здабудзе поўны кантроль над светам.

**10. Для ўсіх рэакцыйных ідэалогіяў тыповы элітарызм, у сілу ягонае глыбокае арыстакратычнасці.**

Цягам гісторыі ўсе арыстакратычныя і мілітарысцкія элітарызмы трымаліся на пагардзе да слабога. Ур-фашызм вызнае папулісцкі элітарызм. Шараговыя грамадзяне складаюць найлепшы народ у свеце. Чальцы партыі – найлепшыя сярод шараговых грамадзянаў. Кожны шараговы грамадзянін можа (ці абавязаны) зрабіцца чальцом партыі.

Аднак патрыцыяў не бывае без плебеяў. Правадыр, які ведае, што атрымаў уладу не праз дэлегаванне, а захапіў яе сілай, разумее таксама, што ягоная сіла грунтуецца на слабасці масаў: яны настолькі слабыя, што ім патрэбны Паганяты, і яны яго заслугоўваюць.

Таму ў такіх грамадствах, арганізаваных іерархічна (паводле мілітарысцкае мадэлі), кожны паасобны правадыр пагарджае, з аднаго боку, вышэйстаячымі, а з другога – падпарадкаванымі. Тым самым падмацоўваецца масавы элітарызм.

**11. Усіх і кожнага выхоўваюць, каб стаць героем.**

У міфах герой увасабляе сабой рэдкую, экстраардынарную істоту; аднак у ідэалогіі ур-фашызму гераізм - гэта норма. Культ гераізму непасрэдна звязаны з культам смерці. У нефашыстоўскіх грамадствах людзям кажуць, што смерць – гэта прыкра, але трэба сустракаць яе з годнасцю. Вернікам кажуць, што смерць – пакутны спосаб дасягнуць надпрыроднага шчасця. Герой жа ур-фашызму прагне смерці, расхваленай як найлепшая кампенсацыя за гераічнае жыццё. Герою ур-фашызму няўсцерп сканаць. У гэтай гераічнай нецярплівасці, заўважма ў дужках, яму нашмат часцей здараецца прыпраўляць аб смерць іншых.

**12. Паколькі як перманентная вайна, так і гераізм – даволі цяжкія гульні, ур-фашызм пераносіць сваё імкненне да ўлады на сферу полу.**

На гэтым асноўваецца культ мужнасці (то бок пагарда да жанчыны і бязлітасны пераслед любых нонканфармісцкіх сексуальных звычаяў: ад цнатлівасці да гомасексуалізму). Паколькі нават у сэкс гуляць нялёгка, герой ур-фашызму гуляецца са зброяй як з эрзацам фаласу.

**13. Ур-фашызм будуецца на выбарачным, альбо квалітатыўным, папулізме.**

Ва ўмовах дэмакратыі грамадзяне карыстаюцца правамі асобы; сукупнасць грамадзян ажыццяўляе свае палітычныя правы толькі пры наяўнасці колькаснай асновы - выконваюцца рашэнні бальшыні. У вачах ур-фашызму індывід як такі правоў не мае, а Народ паўстае як якасць, як маналітная еднасць, што выражае Супольную Волю. Паколькі ніякая колькасць людскіх істотаў у рэчаіснасці не можа мець супольную волю, Правадыр прэтэндуе на тое, каб прадстаўляць усіх. Страціўшы права дэлегаваць, шараговыя грамадзяне не дзейнічаюць, іх толькі заклікаюць – частка за цэлае – граць ролю Народу. Народ, такім чынам, бытуе як феномен выключна тэатральны.

Прыклад квалітатыўнага папулізму няма патрэбы шукаць на Нюрнбергскім стадыёне або на перапоўненай рымскай плошчы перад балконам Мусаліні. У блізкай будучыні нас чакае папулізм тэлевізійны або інтэрнэтны, бо там эмацыйную рэакцыю выбранае групы грамадзян лёгка падаць як «народную думку».

З прычыны свайго квалітатыўнага папулізму ур-фашызм непазбежна аказваецца праціўнікам «прагнілых парламенцкіх дэмакратыяў». Першае, што заявіў Мусаліні, прамаўляючы ў італьянскім парламенце, было: «Хацеў бы я ператварыць гэтую глухую, шэрую залю ў месца прыстанку для маіх кагортаў». Для «сваіх кагортаў» ён, вядома, хутка знайшоў нашмат лепшы прыстанак, але парламент тым не менш разагнаў.

Кожны раз, калі палітык ставіць пад пытанне легітымнасць парламенту, паколькі той ужо нібыта не адлюстроўвае «народную думку», выразна чуваць, як патыхае Вечным Фашызмам.

**14. Ур-фашызм гаворыць на навамоўі.**

Навамоўе прыдумаў Джордж Оруэл у рамане «1984» як афіцыйную мову ідэалогіі «Ангсоц», «Англійскі сацыялізм». Аднак элементы ур-фашызму сустракаюцца ў самых розных дыктатурах. Усе нацыстоўскія і фашыстоўскія школьныя падручнікі карысталіся збедненай лексікай і элементарным сінтаксісам, каб абмежаваць моўныя сродкі для складанай і крытычнай думкі. Мы павінны быць гатовыя распазнаваць і іншыя гатункі навамоўя, нават калі яны прымаюць нявінную на першы погляд форму папулярнага ток-шоў.

Пералічыўшы магчымыя архетыпы ур-фашызму, скончу такім успамінам. Раніцой 27 ліпеня 1943 году мне сказалі: праз радыё перадалі, што фашызм паў і Мусаліні арыштаваны. Маці паслала мяне купіць газету. Я пайшоў да шапіка і ўбачыў, што там поўна газет, і ўсе з рознымі назвамі. Больш таго, прагледзеўшы загалоўкі перадавіц, я зразумеў, што ў розных газетах напісаны розныя рэчы. Тады я купіў наўздагад адну з іх, разгарнуў і прачытаў на першай старонцы дэкларацыю, падпісаную пяцю або шасцю палітычнымі партыямі, сярод якіх былі Хрысціянская дэмакратычная, Камуністычная, Сацыялістычная, Партыя дзеяння, Ліберальная партыя. Дагэтуль мне здавалася, што партыя ў кожнай краіне бывае толькі адна, у прыватнасці ў Італіі гэтая адзіная партыя завецца Нацыянальнай Фашыстоўскай. А тут я пабачыў, што ў маёй краіне могуць адначасна існаваць некалькі партыяў. І паколькі я быў хлопец кемлівы, я адразу зразумеў, што ніяк немагчыма, каб усе гэтыя партыі паўтвараліся за адну ноч. Значыць, падумаў я, яны існавалі раней у падполлі.

Дэкларацыя абвяшчала пра канец фашыстоўскае дыктатуры і аднаўленне свабодаў: свабоды слова, друку, палітычных аб'яднанняў. Гэтыя словы - «дыктатура», «свабода» – я прачытаў там упершыню ў жыцці. Дзякуючы гэтым словам я перарадзіўся ў свабоднага заходняга чалавека.

Мы павінны заўсёды пільнаваць, каб сэнс гэтых словаў не забыўся зноўку. Ур-фашызм дагэтуль ходзіць паблізу, часам пераапрануты ў цывільнае. Як жа лёгка было б, калі б хто-небудзь вылез на сусветную арэну і заявіў: «Хачу зноўку адкрыць Асвенцім, хачу, каб чорныя кашулі зноўку замаршыравалі ў парадах па італьянскіх плошчах». Але жыццё не такое простае. Ур-фашызм можа вяртацца пад самымі нявіннымі маскамі. Наш абавязак – выяўляць ягоную сутнасць і паказваць на новыя ягоныя формы штодзень і ў любым пункце зямнога шару.

# Маладзёвыя субкультуры

***Асноўныя паняцці, якія варта ведаць, каб арыентавацца ў інтарэсах моладзі***

**АНАРХІЯ.** Анархісты не складаюць моладзевае субкультуры. Гэта праява, што ўзнікла ў канцы 19 стагоддзя як палітычная ідэалогія. Аднак сённяшняя моладзь часта звязвае гэтае паняцце з панкам. Панкі часта лічаць сябе анархістамі, «вызнаюць анархію». Разумеюць яны гэтае слова вельмі проста: анархія, паводле іх, – змаганне з усялякай уладаю і грамадскімі ды дзяржаўнымі інстытутамі. Для такога анархіста ворагам будзе войска, паліцыя, царква, школа і ўвогуле кожны, хто нешта яму загадвае. Як і панк, ён бунтаўнік. «Сапраўдныя» анархісты адмяжоўваюцца ад панкаўскага руху, займаюцца палітыкай і грамадскай дзейнасцю (сёй-той скажа – антыграмадскай).

Аматары **ФАНТАСТЫКІ** – вельмі складаная група. Сюды належаць і інтэрнэтчыкі, якія вандруюць штодзень па паўсутак і болей у віртуальным свеце, і гульцы ў ролевыя (RPG) і іншыя фэнтэзійныя гульні, і папросту аматары навуковай фантастыкі і фэнтэзі ў літаратуры і кіно. Матэрыяльных прыкмет у іх небагата, толькі кніжкі, якімі яны абменьваюцца і якія чытаюць пад партай, карты (мала нагадваюць традыцыйныя, графічна набліжаюцца да картаў таро) – яны нястомна іх разглядаюць і гуляюць у іх на перапынках і на ўроках. Аматар фантастыкі выказвае сябе хутчэй у словах – з запалам распавядае пра такія фільмы, як «Матрыца», «Бегучы па лязе», «Джоні Мнэмонік», пра кніжкі Сапкоўскага і, натуральна, Толкіна. Пра доўгія гадзіны, праведзеныя ў інтэрнэт-чатах, можна яшчэ здагадацца па чырвоных вачах, але ж тое самае бывае з лішне старанным вучнем або проста кніжным чарвяком.

Не след блытаць аматараў фантастыкі з кожным, хто праводзіць некалькі гадзін штодзень за кампутарам. Можа, гэта проста фанат кампутарных ГУЛЬНЯЎ, аматар «Квэйку» (гульня) і Лары Крофт, віртуальнае красуні, якая не расстаецца з двума магутнымі пісталетамі.

**ГРАНЖ** – гэта рух, які пайшоў з амерыканскага гораду Сіэтлу. Звязаны з т. зв. «пакаленнем X». Гранжы – маладыя аматары рок-музыкі, якую можна акрэсліць як «цэнтрысцкую». Не любяць мяшчанскую культуру багатай Амерыкі і Заходняй Еўропы, таму апранаюцца абы-як. Характэрная прыкмета – доўгія рабочыя кашулі, курткі з ваенных запасаў, доўгія валасы, заплечнікі, пакрытыя нашыўкамі і лозунгамі.



Недзе сярод нашывак напэўна знойдзецца партрэт Курта Кобэйна, нябожчыка вакаліста і гітарыста групы «Нірвана».

Гранж спакойны, не дбае лішне пра этыкет і слухае ўлюбёныя гурты – «Нірвану» і «Pearl Jam».

**ХАРДКОР.** Цяжка адназначна сказаць, адкуль яны паходзяць. Выглядаюць і паводзяць сябе яны як нешта сярэдняе паміж ролерамі і панкамі. Іхняя музыка часта нагадвае панк, часам нават у стылі «Oi!», з дамешкам рытмічнага хіп-хопу. Маюць даволі развітую падпольную сцэну (якая, у сваю чаргу, даволі актыўна дае пра сябе знаць на старонках інтэрнэту). Носяць кароткія стрыжкі, шырокія, падобныя да ролерскіх, порткі, шырокія блузы з капюшонамі, бейсболкі. Нярэдка можна ўбачыць ланцугі, што вісяць ад кішэні да кішэні. Даволі характэрныя для іх таксама нашыўкі з назвамі хардкорных групаў. Чаравікі – зручныя, спартыўныя. Хардкораўцы не гуртуюцца вакол нейкай канкрэтнай ідэалогіі, бальшыня з іх мае ўласны погляд на жыццё. Значная частка - колішнія панкі, таму хардкорныя групы часта выступаюць на адной сцэне з панкаўскімі. Панкі і хардкораўцы – не ворагі, стасункі паміж гэтымі групамі хутчэй прыязныя. Хардкораўцы затое не любяць скінхедаў, за выключэннем апалітычных, – то бок нацыстаў і нацыянал-сацыялістаў. Праўда, не б'юцца з імі – бо занадта слабыя і дззарганізаваныя, каб даваць скінхедам адпор. Увогуле гэта група з досыць слабымі ўнутранымі сувязямі – ужо таму, што ў іх няма «смяротнага ворага». У тэкстах іхніх песень гучаць матывы, скіраваныя супраць палітыкі, рэлігіі, прававахоўных органаў, аднак мала хто з хардкораўцаў можа ясна сказаць, што для яго важна. Што цікава: шмат хто з хардкораўцаў – вегетарыянцы альбо нават вегане. Шмат хто з іх стаіць на пазіцыях так званага «стрэйт-эдж» (straight edge), якія зводзяцца да наступных лозунгаў: «no drink» – тут ідзецца не пра тое, каб не піць, а пра тое, каб не напівацца; «no smoke»; «no drugs»; «no fuck» – апошняе трэба разумець у тым сэнсе, каб заставацца верным адной жанчыне, а не пералятаць, так бы мовіць, з кветкі на кветку. Відавочна, не трэба быць хардкораўцам, каб належаць да «стрэйтэджу», тым не менш гэтыя дзве назвы досыць часта суіснуюць. Паходзяць хардкораўцы з сем'яў рознага грамадскага статусу - адных можна назваць беднымі, другіх – багатымі. Так званым звычайным людзям іх няма чаго баяцца.

**ХІПІ** – рух, вядомы яшчэ ў шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя. Сучасныя хіпі – альбо апошнія экзэмпляры легендарных гадоў «Вудстаку» (але ўжо далёка не школьнікі), альбо моладзь 13–20 гадоў. Найчасцей гэта ліцэісты з уражлівай, бунтарскай і ўзнёслай душою. Спрашчаючы, маем два тыпы гэтага руху: першы – гэта хіпі-каталікі (альбо тыя, хто ім сімпатызуе), удзельнікі пільгрымак, аматары Антаніны Кшыштань і даўнейшае музыкі (то бок року 70-х). Слухаюць таксама рэгі. Другі тып бліжэйшы да «Н'ю-Эйджу», які, зрэшты, багата чэрпае з руху 60–70-х гг.

Хто не бачыў хіпі? Даўгія валасы, часта перавязаныя стужкаю, шырокія штаны з вышыўкай. Кашулі, каляровыя сарочкі, торбы. Тыповы знак – т.зв. «пацыфік», які, праўдападобна, спачатку азначаў «забарону пралёту самалётаў» (ці бамбардавання), Пра гэткае яго паходжанне піша амерыканскі пісьменнік Стывен Кінг у сваім рамане «Сэрцы ў Атлантыдзе», прыпісваючы вынаходку «пацыфіка» ангельскаму філосафу Бэртрану Расэлу. Памылковай здаецца гіпотэза, што гэта перавернуты крыж, то бок сатанісцкі сімвал («курыная лапка», «зламаны крыж»). Другі знак, тыповы для гэтае культуры – пальцы, складзеныя ў характэрны сімвал V («victory» – перамога).

**ХІП-ХОП** – новая субкультура, якую чалавеку недасведчанаму цяжка адрозніць, напрыклад, ад тэхна. Адзежа хіп-хопаўца – як і ў шмат якіх іншых сучасных групах – шырокія, прасторныя порткі, блуза, капюшон і г.д. Але сутнасць хіп-хопу не ў адзежы, а ў рэп-музыцы, выканаўцы якой стылізуюцца пад простых хлопцаў з бедных кварталаў. Тэксты, хоць у іх і гаворыцца пра звычайныя рэчы, недасведчаным зразумецца даволі цяжка. Выкананню песенек спадарожнічае складаная сістэма жэстаў.

**ФАНАТЫ.** Роднасныя скінам. Жывуць у групе, асабліва на матчах, у тым ліку выязных, і пры вяртанні з стадыёнаў. Любоў да аднаго футбольнага клубу робіцца нагодаю для пляменных войнаў з фанатамі іншых. Кароткая стрыжка і абавязкова клубныя шалік на шыі. Змаганне ідзе якраз за гэтыя шалікі і клубныя сцягі. У лік ідзе не вынік матчу, а колькасць здабытых шалікаў і пабітых ворагаў. Часам спрабуюць перанесці свае звычаі ў школы і публічныя месцы. Фанаты распісваюць сцены гарадоў лозунгамі, у якіх праслаўляюць свае ўлюбёныя клубы.

**КУЛЬТ Д'ЯБЛА.** Вызнаўцы д'ябла, якіх часта завуць «сатаністамі», нярэдка самі цураюцца ад гэтых апошніх (гл. «сатанізм»). Апранаюцца ў чорнае, упрыгожваюць сябе эмблемамі, што асацыююцца з сатанізмам і акультызмам (часта не ўсведамляючы, што тыя значаць) – перавернутым крыжам, пентаграмаю і сімваламі смерці. Слухаюць гнятлівы рок – т.зв. «death metal, black, unholy metal» і г.д. Агрэсіўныя і небяспечныя. Гэта яны пустошаць могілкі, правяць змрочныя рытуалы, падчас якіх забіваюць жывёлін, тэрарызуюць раўналеткаў, нават падпальваюць храмы. Вядома, не ўва ўсіх гэта вынікае з сапраўднае веры ў д'ябла і жадання служыць яму. Часта маем дачыненне са звычайнай, хоць і рэзкай, правакацыяй, нязгодай са светам дарослых альбо папросту з хуліганствам.

**МЕТАЛ** – паняцце вельмі шырокае. Увогуле металісты - гэта аматары «металічнага» (маецца на ўвазе гучанне) року. Маюць багата разгалінаванняў - ад вызнаўцаў д'ябла да фанаў хрысціянскае музыкі. Найчасцей носяць доўгія валасы і бароды (кароткія, без вусаў, толькі на падбароддзі). Строй чорны. Скураная куртка або плашч. Заплечнік як у гранжа. Футболка чорная, з лагатыпам улюбёнае групы альбо ілюстрацыяй з кружэлкі. Чаравікі цяжкія. Срэбныя аксэсуары, часта з чэрапам альбо пентаграмаю. Татуіроўкі – найчасцей аднаколерныя. У некаторых варыянтах металу выступае багата акультных элементаў. Цяпер даволі вялікую папулярнасць мае т.зв. гатычны рок – змрочны, з адсылкамі да магіі, сярэднявечных легенд, германскіх і скандынаўскіх міфаў. Ён крыху «вампірычны» – у графіцы багата крыві, персанажаў з фільмаў жахаў. Фаны готыкі трохі нагадваюць сваім выглядам вампіраў, якіх яны так любяць – усе ў чорным, панурыя, з белымі тварамі (гэта макіяж), вусны і вочы падмаляваныя чорным ці сінім. Яшчэ тыповы жэст – яго часта відаць на канцэртах. Выглядае як хіпоўскае «V», толькі замест сярэдняга пальца выпростваецца мезенец. Гэта знак, які сімвалізуе галаву казла, то бок сатаны. Але, мабыць, бальшыня аматараў металу гэтага не ўсведамляе. Знак ужываюць таксама спартыўныя заўзятары.

**ПАНК** нарадзіўся ў семідзесятыя гады як адказ на камерцыялізацыю року папярэдняй эпохі. Быў выразам грамадскага бунту – як рух лявацкі і блізкі да анархіі. Панк не верыць у будучыню – адгэтуль нязгода з рэчаіснасцю. Панкі слухаюць вострую, рытмічную музыку з нескладанымі тэкстамі, але вельмі экспрэсіўную. Ужо не носяць, як дваццаць гадоў таму, шпількі на твары і высокія каляровыя чубы, г.зв. іракезы. Апошнія – убранне для фестывалю альбо канцэрту. Панк мае неахайны выгляд – валасы падмаляваныя спрэем, куртка з выцертай скуры, караткаватыя порткі (часам каляровыя), цяжкія чаравікі. Гуляюць на гітары альбо на ўдарных, збіраюць грошы, часта ходзяць пад таннымі наркотыкамі альбо алкаголем. Не агрэсіўныя. Часам б'юцца з скінамі і нацыстамі.

**САТАНІЗМ** да сучасных моладзевых субкультур не адносіцца. Аднак гэты тэрмін часта ўжываюць як агульны, падводзячы пад яго розныя погляды, паводзіны і нават музычныя густы. Гл. таксама «культ д'ябла».

**РОЛЕР** апранаецца не па росце. Шырокія порткі, нізкія ў кроку. Вялікая блуза з капюшонам і малюнкам на плячах альбо на грудзях. Доўгі ланцужок, што звісае з кішэні. На галаве бейсболка. У руцэ дошка – адгэтуль іншая іх назва: «скейты» (ад skateboard – ролікавая дошка). Жыццё ролера – язда: на роліках, дошках, горных роварах. Яны акупуюць плошчы, бульвары. Робяць каркаломныя практыкаванні на лесвіцах і парэнчах. Пужаюць прахожых, праносячыся міма па людным ходніку.

Да **СКІНОЎ** кепска ставяцца ці не ўсе астатнія субкультуры. Іхняя гісторыя вельмі заблытаная. Не ўсе з іх расісты. Голяць галовы налыса, адгэтуль назва руху (skinhead – скураная галава, некалі з іх так кпілі). Апранаюцца ў курткі – зялёныя, бардовыя або чорныя з аранжавай падкладкаю; на нагах – цяжкія, добра дагледжаныя чаравікі. Часам – спушчаныя шлейкі. Варожа ставяцца да чужаземцаў, асабліва каляровых, а таксама сацыяльных маргіналаў.

**ТЭХНА.** Адносна новая субкультура. Прыхільнікі тэхнізацыі, у тым ліку і ў музыцы. Апранаюцца ў штучныя, часта аднаразовыя строі, што выкарыстоўваюцца ў прамысловасці. Даўней надзявалі супрацьпылавыя маскі – натуральна, на імпрэзах, а не ў школе. Карыстаюцца спрэямі для валасоў, размалёўваюць твары. Шмат біжутэрыі. Улюбёная забава – парады тэхна і, натуральна, клубы, дзе яны танчаць. Шпаркая, рытмічная музыка (130 удараў у хвіліну) і наркотыкі ўзмацняюць групавы экстаз, хоць не ўсім патрэбны штучны разагрэў. Погляды на каханне і паводзіны ў гэтай сферы – вельмі ліберальныя.

Відавочна, гэта не ўсе магчымыя моладзевыя субкультуры. Калі мы нечага не разумеем, назіраючы строі і паводзіны моладзі, папросту запытайма – урэшце, яны ж намагаюцца нам гэткім чынам нешта паведаміць. І найважнейшае – не трэба перадузятасці. Толькі спакой!

**Пераклад з польскай**
**М.РАМАНОЎСКАГА**



# Навагодні настрой

Навагодні антураж – гэта ў першую чаргу ўпрыгожаная ёлка і Дзед Мароз. Але хаця Новы год – гэта пара цудаў, стары з сівой барадой і мехом падарункаў, а таксама ялінка проста так вам не зваляцца.

На кожны Новы год больш за ўсё ёлак купляецца, натуральна, у Мінску. Сёлета ў сталіцы ёлачныя кірмашы запрацавалі з 23 снежня. Гандляваць ялінамі тут будуць з 10 да 19 гадзінаў штодня да 31 снежня ўключна.

**Колькі ж каштуюць лясныя прыгажуні?** Ёлка да метра вышыні абыдзецца вам прыблізна ў 5 з паловай тысяч рублёў, ад метра да двух – каля 9 тысяч, вышэй двух метраў – 12–14 тысяч. Гэта калі набываць ёлку на гарадскім кірмашы. У лясгасах кошты ўдвая таннейшыя. Тым, хто хоча здабыць сабе ялінку зусім задарма – то бок ссекчы ў лесе дзе-небудзь за кальцавой аўтадарогай, паведамім: калі вас зловяць з сякерай ці пілой, то рыхтуйцеся да спагнання штрафу ад адной да трох базавых велічыняў. Гэта ад 16,5 да 49,5 тысяч рублёў. Пагадзіцеся – купіць абыдзецца танней.



Калі, канечне, вы не вялікі экалагіст, які супраць таго, каб ставіць дома на Новы год жывыя ссечаныя елкі. Сёлета з'явілася цікавая прапанова – можна набыць блакітную яліну ў гаршчку, каб пасля свята высадзіць яе на лецішчы ці проста ў лесе. Праўда, каштуе такая любоў да прыроды ажно каля 100 тысяч рублёў. Яшчэ варыянт – купіць штучную ёлку. Праўда, некаторыя эколагі даводзяць, што утылізацыя такіх ёлак пасля, скажам, 10–15 гадоў іхняй эксплуатацыі наносіць прыродзе шкоды не меней, чымсьці высяканне ялінаў.

**Некалькі парадаў, як выбіраць жывыя ёлкі.** Свяжэйшыя пахнуць хвояй больш насычана, і лепш трымаюцца на іхніх галінках іголкі. На ёлачным кірмашы правядзіце рукой па галінцы: калі іголкі пачалі сыпацца – такую ёлку не бярыце, бо ёсць рызыка працаваць мятлой пад ёй дома яшчэ да Новага года. А вось што можна зрабіць, каб ёлка прастаяла ў кватэры як мага дольш. Не ўносце адразу ялінку ў цёплы пакой – хай яна спачатку адтае, акліматызуецца дзе-небудзь у пад'ездзе ці на зашклёным балконе. У ёмістасць з вадой, дзе будзе стаяць ёлка, можна кінуць таблетку звычайнага аспірыну.

З пачатку снежня рэкламовыя газеты стракацяць абвесткамі з прапановамі наняць на Новы год Дзеда Мароза (ці, паводле беларускай міфалогіі, Зюзю) са Снягуркай альбо з іншымі казачнымі персанажамі. Паўгадзіны навагодніх забавак Дзеда Мароза з вашымі дзецьмі будзе каштаваць 10–25 даляраў. Гэта ўжо як дамовіцеся. Між іншым, ёсць у Дзядоў Марозаў і праграмы для дарослых. Візіт Дзеда Мароза са Снягуркай на працягу дня 31 снежня абыдзецца трохі, а непасрэдна на сам Новы год ўжо значна даражэй – у некалькі разоў.

У навагодніх персанажаў можна ператварыцца і самім, купіўшы адмысловыя строі. Праўда, іхнія кошты дастаткова адчувальныя для сямейнага бюджэту – ад 70 даляраў і вышэй. Можна ўзяць **касцюм Дзеда Мароза напракат – 25-30 даляраў**. Яшчэ варыянт – пашыць яго з таго, што дома знойдзецца.

Зрэшты, на Новы год, асабліва калі для вас гэта не такое ўжо вялікае свята, а проста каляндарная змена двух гадоў, цалкам можна задаволіцца ўсіхнімі, вулічнымі Дзедамі Марозамі і ёлкамі.

**Святочная праграма**

Дарэчы, для тых менчукоў, хто любіць сустракаць Новы год на вуліцы ў натоўпе, у сталіцы па традыцыі падрыхтавалі адмысловую святочную праграму. Ейным цвіком стане феерверк, які ўпрыгожыць мінскае неба каля абеліску «Горад-герой» на праспекце Машэрава. Пабачыць яго можна будзе а палове на другую навагодняй ночы. Феерверк будзе доўжыцца каля паўгадзіны. Гэта галоўны феерверк. Лакальныя святочныя стрэлы будуць зробленыя каля Лядовага палацу, у мікрараёне Сухарава, каля рынку «Заходні», а таксама блізу Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў.

Навагоднія тэатралізаваныя шоу пройдуць ва ўсіх раёнах гораду: у Заводскім – каля рамантаванага кінатэатра «Дружба», на пляцоўцы перад ДК МАЗ, а таксама ў мікрараёне «Сосны»; у Кастрычніцкім – каля кінатэатра «Электрон» і ДК чыгуначнікаў; у Ленінскім – каля кінатэатра «Салют» і блізу ДК «Камволь» і «Матавела»; у Маскоўскім – на пляцоўцы каля 8-й дзіцячай паліклінікі і ў скверы па праспекце газеты «Праўда»; у Партызанскім – на пляцоўцы каля трактарнага завода і ў мікрараёне Дражня; у Першамайскім раёне – па вуліцы герояў 120-й дывізіі; у Савецкім – каля Камароўскага рынку і універсама «Паўночны»; у Фрунзенскім – каля Лядовага палацу, каля рынку «Заходні» і ў ваенным гарадку Масюкоўшчына; нарэшце, у Цэнтральным раёне Мінску навагоднія гулянні пройдуць каля кінатэатра «Кіеў». Па традыцыі тэатралізаванае прадстаўленне адбудзецца на Кастрычніцкай плошчы – ад апоўначы да 4 гадзін народ будуць забаўляць ансамблі мастацкай самадзейнасці.

**Калядны тыдзень**

Але гэта забаўкі на ўласна Новы год з 31 снежня па 1 студзеня. А што святочнага і цікавага чакаецца да і пасля, на Каляды. Напрыклад, куды можна звадзіць дзяцей? 27 снежня ў Палацы Рэспублікі адбудзецца навагодняе мерапрыемства – так званая Галоўная Ёлка з удзелам прэзідэнта Беларусі. Але, самі разумееце, што патрапіць сюды могуць не ўсе ахвотныя. Падкажам, якія ёсць болей даступныя мерапрыемствы.

Прыкладам, у Тэатры юнага гледача з 23 снежня па 6 студзеня будуць паказваць навагодняе прадстаўленне «Зімовыя сны Папялушкі». Штодня ў гэты перыяд спектакль будзе ісці двойчы на дзень (аб 11-й і а 14-й гадзіне), а то і тройчы (яшчэ і ў 16.30). Атрымаць дадатковую інфармацыю аб квітках на «Зімовыя сны Папялушкі» можна непасрэдна ў касах ТЮГу (вул. Энгельса, 26) і па тамтэйшым тэлефоне 226–12–43.

Малыя менчукі могуць схадзіць у госці да Дзеда Мароза яшчэ і ў парк імя Горкага. Там днямі пабудавалі рэзідэнцыю галоўнай барады з ваты нашай краіны, які жыве ў Белавежскай пушчы. З 24 снежня па 5 студзеня ён будзе знаходзіцца менавіта ў Мінску – так што заходзьце проста ў госці і па падарункі, натуральна.

**Дамовіцца аб сустрэчы вашага малога ці малой з Дзедам Марозам можна праз тэлефоны 236–24–25 і 236–51–31.**

Святкуйце і не хварэйце!

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Год Сіняй Малпы



**Вось гэтая мілая добразычлівая істота будзе сімвалізаваць надыходзячы год. Хто нараджаецца ў год Сіняй Малпы, мае шанец стаць удачлівым чалавекам мастацтва.**

## Крамы ў святочным рэжыме

Праблемаў з навагоднімі пакупкамі – падарункамі і прадуктамі на стол – на гэты Новы год і Каляды ў менчукоў быць не павінна. Сталічныя ўлады прынялі рашэнне, паводле якога ў перыяд з 20 снежня па 8 студзеня ўсім гарадскім аб'ектам гандлю забаронена зачыняцца на рамонт, пераўлік ці санітарны дзень.

Некаторым на Новы год мала паглядзець на святочны феерверк над горадам – абавязкова трэба свой міні-салют зрабіць. Таму ў навагоднюю ноч часам бывае як на вайне. Прычым каляровая страляніна прыводзіць, бывае, і да няшчасных выпадкаў з ахвярамі. Па-першае, праз неабачлівасць, па-другое, з-за таго, што выкарыстоўваюцца піратэхнічныя сродкі сумнеўнага паходжання. І нават калі ўсялякія петарды ды ракеты спраўныя, то яны ўсё адно тояць у сабе небяспеку, бо звычайна прадаюцца ў нас нелегальна без інструкцыяў па карыстанні.

З 1 снежня па 15 студзеня, паводле пастановы Міністэрства гандлю, у дзяржаўных крамах можна прадаваць піратэхніку. Акрамя Мінску. Тут дзейнічае адмысловае рашэнне Мінгарвыканкаму яшчэ ад 1995 года. У Мінскіх крамах можна купіць хіба што бяскрыўдныя і няшумныя «хлапушкі» з канфеці ды бенгальскія агеньчыкі. Натуральна, аматараў піратэхнічных відовішчаў гэта дзіцячыя штучкі.

Зрэшты, хто дужа захоча, той зможа лёгка набыць усялякія выбуховыя сродкі на сталічных кірмашах падпольна. Ці зрабіць гэта праз інтэрнэт, які праваахоўным органам кантраляваць складана.

Прыкладам, наборы з 10–12 ракет, якія ўзлятаюць уверх на некалькі дзесяткаў метраў, каштуюць ад 10 да 20 тысяч рублёў, упакоўка петард з 25 штук – 5–10 тысяч, феерверкі розных зарадаў – ад 15 да 80 тысяч. За адну «хлапушку» ці набор бенгальскіх агеньчыкаў давядзецца выкласці ўсяго тысячу рублёў.

## Санта-Клаўс звальняе сваіх эльфаў

Мясціна, дзе пражывае Санта-Клаўс у Лапландыі, перастае быць такім радасным месцам, якім яно было ўсе папярэднія гады для дзесяткаў тысяч турыстаў, якія зноў наведаюць Фінляндыю гэтай зімой. Сутыкнуўшыся з непасільным цяжарам даўгоў (550 тысяч даляраў за пяць гадоў працы), Санта-Клаўс звольніў бальшыню сваіх эльфаў, якія працавалі на атракцыёне Санта-Парк за палярным кругам у Лапландыі.

«Я адчуваю сябе вельмі сумна, бо праца эльфа стала часткай маёй асобы, – паведала Мілья Вілміла, якой аб'явілі, што пасады эльфа больш не існуе. – Чагосьці гэтым Калядам пэўна будзе не хапаць». «Гэта сезонная праца, таму нам давялося зменшыць кошты наколькі гэта магчыма», – гаворыць Вілі Райяла, дырэктар турыстычнага атракцыёна ў 520 кіламетрах на поўнач ад Хельсінкі. Санта-Парк адкрыты з лістапада па студзень і на непрацяглы час летам для наведвальнікаў, якія жадаюць паглядзець гэтую знакамітую мясціну, калі сонца не заходзіць некалькі месяцаў запар. Але будзе менш эльфаў – будзе і менш турыстаў. Санта-Клаўса даганяюць звычайныя чалавечыя праблемы недахопу сродкаў.

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13

E-mail: nchas@tbm.org.by
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 2272
Падпісана да друку 23.12.2003 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11